● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

12 сакавіка 1998 г. чацвер, № 55 (23406)

# ЗВЯЗДА

## БЕЛАРУСКІ РУБЕЛЬ «ПАДТАЧЫЛІ» СПЕКУЛЯНТЫ?..

### За тыдзень долар узрос больш чым на сем тысяч рублёў

За апошні тыдзень, бадай, нічога так не «зачапіла вока» грамадскасці, як тое, з якой хуткасцю мяняюцца каціроўкі амерыканскага долара на валютным рынку. А карціна, дарэчы, бязрадасная. Яшчэ на пачатку мінулага тыдня камерцыйныя банкі прапаноўвалі пакупнікам (у большасці на паперы) долар па курсу 44.700 рублёў, а на ўчарашні дзень лічба вырасла ўжо да 52 тысяч рублёў за наяўны долар. Імклівасць неверагодная. Рынак, трэба прызнаць, ужо даўно так не ліхаманіла. Падзенне адбываецца на ўсіх сегментах валютнага рынку. Напрыклад, учора на дадатковай сесіі Міжбанкаўскай валютнай біржы курс дасягнуў ужо 52.500. Што датычыцца валютчыкаў, якім выпала ўдача поўнасцю аддацца любімай справе і зарабіць, то ўжо з раніцы 11 сакавіка яны ўстанавілі продаж па курсу 52 тысячы рублёў за адзін долар.

Многія спецыялісты лічаць, што абвал беларускага рубля — не што іншае, як спекуляцыя. Афіцыйны бок прытрымліваецца пункту погляду, што цяперашні хаос стварыў не хто іншы, як маскоўскія банкі. Больш таго, спекуляцыйная складаючая апошніх падзей магла б быць спынена Цэнтрабанкам Расіі ў рамках рэалізацыі вядомых пагадненняў. Аднак спецыялісты прызнаюць і той факт, што, безумоўна, Цэнтрабанк не будзе расходаваць свае валютныя рэзервы на падтрыманне беларускага рубля. Хоць спыніць кароткачасовыя спекуляцыі яму вельмі проста.

З другога боку, некаторыя банкіры лічаць, што тое, што адбываецца сёння на валютным рынку, прадвызначана непрыманнем дзейсных мераў па стрымліванню імпарту, вяртанню экспартнай выручкі і навядзенню парадку ў валютным рэгуляванні і валютным кантролі. Такога пункту погляду прытрымліваецца, напрыклад, і дырэктар цэнтра банкаўскіх даследаванняў пры Асацыяцыі камерцыйных банкаў Міхаіл Кавалёў. Што атрымліваецца? З 8 мільярдаў экспартнай выручкі за 1997 год у рэспубліку вярнулася ўсяго 3,6 мільярда, а на МВБ прададзена па афіцыйнаму курсу толькі каля мільярда. Фактычна афіцыйны курс сёння вызначае цану нязначнай часткі валюты. Уся астатняя экспартная выручка ўлічваецца нават у бартэрных і клірынгавых здзелках па рыначнаму курсу. Прафесар Міхаіл Кавалёў лічыць, што заплюшчваць вочы на гэта больш нельга. Трэба ўжо даўно перавесці тую ж уплату мытных пошлін на рыначны курс. І, зразумела, арганізаваць нармальны гандаль унутры рэспублікі. Абсурдна прадаваць долары за беларускія рублі, выкарыстоўваючы рынкі замежных дзяржаў (тое ж самае, што перавесці гандаль расійскімі рублямі ў Нью-Йорк). У нас склалася настолькі заблытаная схема, што прадаць валюту можна на дадатковай сесіі Мінскай валютнай біржы, а купіць толькі ў Маскве. На думку Міхаіла Кавалёва, трэба неадкладна ўзнавіць нармальны гандаль СКВ на Мінскай валютнай біржы і каціраваць афіцыйны курс па ёй. І пры гэтым трэба больш увагі ўдзяліць удасканаленню афіцыйных схем узаемазалікаў паміж нашай краінай і асноўнымі партнёрамі СНД без выкарыстання валюты...

Дарэчы, на 19 гадзін учарашняга дня валютчыкі па-ранейшаму прадавалі долар па 52 тысячы рублёў.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

Вясновыя яблыкі

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## У БЕЛАРУСКА-СІРЫЙСКАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА З'ЯВІЎСЯ НАДЗЕЙНЫ ЮРЫДЫЧНЫ «ПАРАСОН»

Лагічным завяршэннем афіцыйнага візіту прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Сірыйскую Арабскую Рэспубліку стала падпісанне 11 сакавіка сумеснай беларуска-сірыйскай заявы і цэлага пакета міжурадавых пагадненняў. Сярод іх — пагадненні аб гандлёвым, эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве, аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання і абароне інвестыцый, а таксама аб супрацоўніцтве ў сферах культуры, аховы здароўя, інфармацыі, сельскай гаспадаркі і прамысловасці. Усё гэта дасць магчымасць на справе рэалізаваць дасягнутыя ў ходзе візіту дамоўленасці.

А перспектывы ў беларуска-сірыйскага супрацоўніцтва адкрываюцца немалыя, аб чым неаднаразова падкрэслівалася на сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі дзелавых колаў Сірыі. Аднак прэм'ер-міністр гэтай краіны Махмуд аль-Зуабі, які прыняў у ёй удзел, адзначыў, што поспех далейшага супрацоўніцтва будзе ў многім залежаць ад тых, каму непасрэдна трэба будзе рэалізоўваць заключаныя пагадненні — міністраў, бізнесменаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў.

Аналагічны пункт гледжання выказаў і прэзідэнт нашай рэспублікі. «Усё, што павінны былі зрабіць кіраўнікі дзяржаў, ужо зроблена, — падкрэсліў ён. — Сфарміраваная дагаворна-прававая база двухбаковага супрацоўніцтва стала, вобразна кажучы, надзейным юрыдычным парасонам, які здольны абараніць інтарэсы абодвух бакоў і засцерагчы ад небяспекі гандаль паміж нашымі краінамі. Мы заявілі аб сваёй прыхільнасці гандляваць па прымальных цэнах і таварамі высокага класа. Сёння і ў Беларусі, і ў Сірыі не хапае цвёрдай валюты. Таму мы дагаварыліся аб тым, што будзем весці гандаль на бартэрнай аснове, не выключаючы пры гэтым і гандаль за валюту».

Аляксандр Лукашэнка назваў некалькі прыярытэтных напрамкаў, па якіх будуць будавацца нашы ўзаемаадносіны з Сірыяй. Перш за ўсё, адзначыў ён, Беларусь зацікаўленая ў імпарце з гэтай краіны бавоўны, тытуню, пшаніцы, алею, нафты, звадкаванага газу. Беларусь гатова куплядь у Сірыі садавіну і агародніну, а таксама адкрыць на яе тэрыторыі сумесныя прадпрыемствы па зборцы трактароў, тэлевізараў, халадзільнікаў і многага іншага. А каб бізнесмены, прадпрымальнікі, кіраўнікі прадпрыемстваў мелі магчымасці эфектыўна супрацоўнічаць, дасягнута дамоўленасць аб адкрыцці ў бліжэйшы час прамога авіярэйса Мінск—Дамаск. Аляксандр Лукашэнка праінфармаваў прадстаўнікоў дзелавых колаў Сірыі аб эканамічнай сітуацыі ў нашай краіне, яе вытворчым патэнцыяле і запрасіў іх да цеснага супрацоўніцтва з беларускімі калегамі.

Аднак перш чым падпісаныя міждзяржаўныя пагадненні пачнуць працаваць на поўную сілу, іх павінны ратыфікаваць парламенты абедзвюх рэспублік. А папрацаваць у гэтым плане ім прыйдзецца шмат, падкрэсліў прэзідэнт Беларусі на сустрэчы са старшынёй сірыйскага парламента Абдэлем Кадэрам Кадурам. Паводле слоў кіраўніка нашай дзяржавы, гэтым летам будуць падпісаны яшчэ 3-4 міжурадавыя пагадненні.

Позна ўвечары 11 сакавіка Аляксандр Лукашэнка вярнуўся з Дамаска ў Мінск.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 11 САКАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 48800 | 50000 | 26600 | 28000 | 7900 | 8400 | 263-6080 |
| Тэхнабанк* | 49000 | 52000 | 26500 | 28400 | 7900 | 8400 | 210-1373 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 33220.00 | | 18118.35 | | 5480.00 | | Курс на 12.03.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0840 | | 3.3222 | | 10000 BLR - 1.1375 | | |
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 53600 | 54100 | 29246 | 29527 | 8836 | 8920 | |

* каціруецца ўкраінская грыўна

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

### УВАГА!
### Конкурс сярод паштальёнаў працягваецца

У мінулай падпісной кампаніі мы ўпершыню вырашылі правесці конкурс не сярод раённых вузлоў паштовай сувязі, а непасрэдна сярод паштовых аддзяленняў. Як і ў любой новай справе, не абышлося без недахопаў, пераможцы былі вызначаны са спазненнем. Аднак сёння мы можам сказаць: свае абавязкі арганізатараў мы выканалі.

Ідзе падпіска на II квартал, і рэдакцыя вырашыла захаваць заахвочванне паштальёнаў.

Па выніках падпіскі на II квартал па тры паштовыя аддзяленні з вобласці, у якіх будзе захаваны ранейшы ўзровень ці адбудзецца прырост падпіскі на газету, атрымаюць прэміі ў памеры аднаго мільёна рублёў. У «Звяздзе» будуць надрукаваны прозвішчы начальнікаў гэтых паштовых аддзяленняў і колькасныя паказчыкі падпіскі. Спадзяёмся, што нашы намаганні аб пашырэнні падпіскі на адзіную штодзённую беларускамоўную газету з разуменнем будуць успрыняты як паштальёнамі, так і чытачамі, дзеля якіх існуе наша газета і дзеля якіх працуе наш калектыў.

**Рэдакцыя.**

## ВІЗІТ НАПЯРЭДАДНІ ЎКАЗА

Развіццю навуковай галіны ў Беларусі ўдзяляецца першарадная ўвага. Як неаднаразова падкрэсліваў прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, ад гэтага залежыць будучыня нашай краіны. Кіраўнік дзяржавы, таксама як і іншыя кіраўнікі Беларусі, не раз наведваў навуковыя ўстановы рэспублікі. Для таго, каб азнаёміцца са станам спраў у Нацыянальнай акадэміі навук, 10 сакавіка тут пабываў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч.

Навуцы і яе флагману — Нацыянальнай акадэміі навук — на дзяржаўным узроўні надаецца вялікае значэнне, з задавальненнем канстатаваў і прэзідэнт АН Аляксандр Вайтовіч. Ён паведаміў у інтэрв'ю журналістам, што ў хуткім часе павінен быць падпісаны ўказ, які «запусціць» механізмы рэалізацыі задач, звязаных з наданнем акадэміі статусу вядучай навуковай установы краіны.

Падрыхтоўкай гэтага ўказа часткова абумоўлены і візіт у Акадэмію навук Міхаіла Мясніковіча. Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта наведаў інстытуты фізікі, агульнай і неарганічнай хіміі, дзе азнаёміўся з ходам даследаванняў і прыкладнымі распрацоўкамі, правёў грунтоўную гутарку з кіраўніцтвам гэтых структурных падраздзяленняў АН.

Паводле слоў Аляксандра Вайтовіча, цяпер у Нацыянальнай акадэміі навук дапрацоўваецца праект праграмы, накіраванай на павышэнне эфектыўнасці выкарыстання навуковага патэнцыялу АН. Плануецца, што гэты дакумент, які стане своеасаблівай канстытуцыяй для вучоных, будзе зацверджаны на сесіі агульнага сходу Акадэміі навук 9 красавіка. Праграма дасць магчымасць устанавіць цесную сувязь навуковай галіны з эканомікай краіны. Хоць многае ў гэтым напрамку, адзначыў Аляксандр Вайтовіч, робіцца ўжо цяпер.

Акрамя таго, праграма прадугледжвае вырашэнне праблем, звязаных з кадравай палітыкай акадэміі, у прыватнасці, з «амаладжэннем» навукі. Ёсць у ёй і блок сацыяльных пытанняў, накіраваны на ўзняцце прэстыжу навуковай дзейнасці, прычым перш за ўсё праз сацыяльныя гарантыі і высокую заработную плату. Сярод іншых задач, адлюстраваных у праекце дакумента, — развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы, міжнароднага супрацоўніцтва, сувязяў з вышэйшай школай.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ЦІ ПОЙДЗЕ «ЖУЛЛЁ Ў ЖЫЛЛЁ»?

### Парламент імкнецца лібералізаваць праект закона аб дэкляраванні

**За нядоўгую гісторыю існавання Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу яшчэ, мабыць, ніводзін дакумент не абмяркоўваўся яе дэпутатамі так горача, зацята і напружана як праект закона «Аб дэкляраванні фізічнымі асобамі даходаў, маёмасці і крыніц грашовых сродкаў». Гэта не дзіўна: важнасць будучага закона можна нават ацаніць па тым, што ён закране абсалютна ўсіх жыхароў Беларусі. Прычым будзе датычаць адной з галоўных сфер жыцця чалавека — фінансава-маёмаснай.**

Двойчы законапраект выносіўся на сесію парламента, але быў прыняты толькі ў першым чытанні. Рыхтуючы дакумент да другога чытання, камісіі Палаты прадстаўнікоў да гэтага часу не могуць знайсці агульнай мовы адносна многіх палажэнняў. Каб зняць спрэчныя пытанні, не адзін раз праводзіліся сумесныя пасяджэнні камісій, на якія запрашаліся і непасрэдныя распрацоўшчыкі законапраекта ў асобе прадстаўнікоў урада і, у прыватнасці, Дзяржаўнага падатковага камітэта.

Апошняе такое пасяджэнне адбылося 10 сакавіка. Але і яно не змагло канчаткова расставіць кропкі над «і», хаця значная частка рознагалоссяў аказалася ўсё ж перадоленай. Відавочна, што сённяшнія спрэчкі, якія не выходзяць пакуль за межы кабінетаў пастаянных камісій, успыхнуць з новай сілай, калі законапраект на веснавой сесіі зноў будзе вынесены на разгляд усіх дэпутатаў.

Адно з прынцыповых пытанняў, нявырашанасць якога, дарэчы, не дазволіла прыняць законапраект да гэтага часу, — дэкляраванне сродкаў для будаўніцтва і набыцця жылля. Частка дэпутатаў прапанавала вызваліць сродкі на гэтыя мэты ад дэкляравання. Напрыклад, старшыня Камісіі па пытаннях эканомікі Сямён Ліўшыц аргументуе гэта наступным чынам. «Трэба прыцягнуць у Беларусь тыя грошы, якія беларусы захоўваюць за мяжой, а таксама тыя, што гадамі збіраліся і ляжаць у панчохах, — кажа С. Ліўшыц. — Няхай людзі ўкладваюць сродкі ў будаўніцтва жылля. Гэта, з аднаго боку, будуць дадатковыя інвестыцыі, з другога гэтая мера выкліча пад'ём у сферы абслугоўвання і ў лёгкай прамысловасці; па-трэцяе, не трэба баяцца радыкальных крокаў, паколькі нерухомасць у любым выпадку будзе знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі і будзе працаваць на нашу краіну. Калі ж мы не прымем такое рашэнне, то грошы беларусаў па-ранейшаму будуць укладвацца ў эканоміку Расіі, Украіны, Літвы і павышаць дабрабыт іншых краін». Аднак праціўнікі такога рашэння маюць адзіны, але не менш моцны аргумент. На іх думку, вызваленне сродкаў на будаўніцтва жылля фактычна будзе азначаць амніціраванне «брудных» грошай, атрыманых злачынным шляхам, і дасць прастору для іх бесперашкоднага адмывання...

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ПАЎСТАГОДДЗЯ АДДАДЗЕНА ГЕНЕТЫЦЫ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прафесара Любоў Уладзіміраўну Хатылёву. У пасланні кіраўніка дзяржавы ў прыватнасці гаворыцца, што жыццё Любові Хатылёвай непарыўна звязана з навукай, служэнню якой яна аддала амаль паўстагоддзя. Неацэнны яе ўклад у развіццё Інстытута генетыкі і цыталогіі Нацыянальнай акадэміі навук, кіраўніком якога яна была. Аляксандр Лукашэнка пажадаў Любові Уладзіміраўне моцнага здароўя, шчасця, бадзёрасці, доўгіх гадоў жыцця і выказаў надзею, што яшчэ многія гады яна будзе выкарыстоўваць свае глыбокія веды і унікальны вопыт на карысць роднай Беларусі.

**БЕЛТА.**

## КІРАЎНІК УРАДА НАВЕДАЕ РАГАЧОЎСКІ РАЁН

Шэраг сельскіх гаспадарак і прадпрыемстваў Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці наведае 12 сакавіка прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг. Аб гэтым паведаміў БЕЛТА прэс-сакратар кіраўніка ўрада нашай рэспублікі Дзмітрый Маліноўскі.

## БЕЛАРУСЬ І БАЛГАРЫЯ МАЮЦЬ НАМЕР ДРУЖЫЦЬ ПАРЛАМЕНТАМІ

Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь і Народным сходам Рэспублікі Балгарыі будзе падпісана ў Мінску ў ходзе маючага адбыцца візіту ў нашу краіну дэлегацыі балгарскага парламента. Дамоўленасць аб гэтым была дасягнута ў час перагавораў у Сафіі беларускай парламенцкай дэлегацыі на чале са Старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Паўлам Шыпуком з кіраўніцтвам вышэйшага заканадаўчага органа Балгарыі.

У час урачыстасцяў Павел Шыпук правёў афіцыйную сустрэчу са спікерам балгарскага парламента Йарданам Сакаловым. У ходзе праведзенай гутаркі бакі пацвердзілі намер аказваць узаемную дыпламатычную падтрымку на міжнароднай арэне.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, у час свайго знаходжання ў Балгарыі Павел Шыпук таксама быў прыняты прэзідэнтам гэтай краіны Петрам Стаянавым, якому перадаў віншаванні са святам ад імя прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Петр Стаянаў, у сваю чаргу, выказаў свае найлепшыя пажаданні ў адрас кіраўніка беларускай дзяржавы і пацвердзіў намер наведаць Беларусь з афіцыйным візітам у 1998 годзе.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## Камітэт па каштоўных металах інфармуе: НА КАШТОЎНЫЯ МЕТАЛЫ — НОВЫЯ ЦЭНЫ

З 4 сакавіка 1998 года разліковыя цэны на каштоўныя металы, якія здаюцца ў Дзяржфонд Рэспублікі Беларусь, устаноўлены ў наступных памерах:

| *Назва* | *Разліковыя цэны ў рублях за 1 грам чыстага металу* |
|---|---|
| Золата | 311213 |
| Серабро | 7126 |
| Плаціна | 400763 |
| Паладый | 245514 |
| Родый | 341572 |
| Руценій | 37616 |
| Ірыдый | 188407 |
| Осмій | 439908 |

З 10 сакавіка пакупныя цэны на каштоўныя металы ў вырабах і ломе, якія скупляюцца ў насельніцтва, устаноўлены ў наступных памерах:

| *Назва вырабаў і метала* | *Пакупная цана ў рублях па пробах за грам металу* | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *333* | *375* | *500* | *583 585* | *750* | *900* | *916* | *950* | *958* |
| Золата ў вырабах і ломе | 128506 | 144714 | 192952 | 225754 | 289428 | 347314 | 353488 | 366609 | 369696 |
| Плаціна ў вырабах і ломе | | | | | | | | | 472099 |

| *Назва вырабаў і металаў* | *Пакупная цана ў рублях па пробах за грам металу* | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *500* | *750* | *800* | *875* | *900* | *916* | *925* | *960* |
| Серабро ў вырабах і ломе | 4418 | 6627 | 7069 | 7732 | 7952 | 8094 | 8173 | 8483 |

***Заўвага:*** 1. Золата ў вырабах і ломе проб, якія не прадугледжаны ў гэтым прэйскуранце, купляецца па цэнах, налічаных зыходзячы з 385904 руб., серабро — 8836 руб., плаціна — 496946 руб. за грам у чыстым выглядзе.

2. Лом вырабаў, камбінаваных з золата і серабра, з утрыманнем серабра да 70 працэнтаў купляецца па цане 115771 руб. за грам, а больш як 70 працэнтаў — па цане серабра.

3. Зубныя пратэзы з утрыманнем золата 900/750 пробы, якія былі ў карыстанні, элементы здымных пратэзаў са сплаваў ЗлПлСрМ 750-90-80 купляюцца па цане 334860 руб. за грам.

4. Зубатэхнічная прадукцыя з сярэбрана-паладыевага сплаву з утрыманнем серабра не менш як 70 працэнтаў купляецца па цане 6848 руб. за грам.

**Старшыня А. В. БРОЎКІН.**

## ЦІ ПОЙДЗЕ «ЖУЛЛЁ Ў ЖЫЛЛЁ»?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Магчыма, дэпутаты знойдуць агульную мову па гэтаму пытанню. Анатоль Красуцкі, напрыклад, прапанаваў вызваліць ад дэкларавання сродкі, якія накіроўваюцца толькі на будаўніцтва адна- і двухпакаёвых кватэр. Гэта, па яго перакананню, пазбавіць тых людзей, якія на працягу жыцця збіралі па капейцы (ці па долару) грошы на кватэру і не маюць на іх ніякіх папер, турбот з дэклараваннем і адначасова не дазволіць «жуллю пайсці ў жыллё».

Шмат спрэчак выклікалі гранічныя стаўкі сродкаў для дэкларавання. У выніку абмеркавання ўдалося іх значна павысіць. Напрыклад, раней ў праекце існавала палажэнне, якое прадугледжвала дэкларавання грамадзянамі твораў мастацтва і вырабаў з каштоўных металаў і камянёў, кошт кожнага з якіх перавышаў 200 МЗП ці калі іх агульны кошт перавышаў 500 МЗП. Цяпер парламентарыі дамовіліся павысіць іх памер да 500 і 1000 МЗП адпаведна.

Адно з палажэнняў праекта таксама прадугледжвала, што грамадзяне пры заключэнні маёмаснай здзелкі, якая перавышала 500 МЗП, павінны былі падаваць дэкларацыю аб крыніцах грашовых сродкаў. Дэпутаты прыйшлі да высновы, што гэтая лічба павінна быць узнята да 1000 ці нават да 2000 МЗП. У прыватнасці, яны спасылаліся на прыклад Расіі, дзе дэкларыванню падлягаюць здзелкі на суму больш як 13 000 долараў (у Беларусі мінімальны памер здзелкі, якую можна заключыць без дэкларавання, складае менш як 2 800 долараў. — **Аўт.**).

Не выключана, што да адкрыцця сесіі гэтыя прапановы яшчэ будуць скарэкціраваны. Аднак сёння відавочна (і пасяджэнне камісіі лішні раз пацвердзіла гэта), што дэпутаты настроены на лібералізацыю праекта закона аб дэкларванні.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## РЫХТУЕЦЦА КОДЭКС АБ ЗЯМЛІ

**Чарговае пасяджэнне Камісіі па аграрных пытаннях палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь было прысвечана разгляду найперш праекта Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб зямлі.**

Упершыню ўводзіцца класіфікацыя дзялімых і недзялімых участкаў. Ужо нельга будзе раздзяліць 20 бацькавых ці дзедавых сотак на 10 спадкаемцаў. Права карыстання зямельным участкам, дарэчы, павінна быць зарэгістравана ў зямельнай кадастравай кнізе. Найбольшую палеміку пры абмеркаванні выклікала пазіцыя па выдзяленню дадатковага зямельнага ўчастка для вядзення гаспадаркі пошчай да 3 гектараў (зараз пакуль што — 1 гектар).

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПАГРАНІЧНІКІ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЬ НАМАГАННІ Ў БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ АРГАНІЗАВАНАЙ ЗЛАЧЫННАСЦІ

Учора ў Гомелі завяршылася сустрэча паміж старшынёй Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі Аляксандрам Паўлоўскім, дырэктарам Федэральнай пагранічнай службы Расіі Мікалаем Бардзюжай і старшынёй Дзяржаўнага камітэта па справах аховы дзяржаўнай мяжы Украіны Віктарам Банных. Бакі дамовіліся ініцыіраваць распрацоўку і падпісанне міжурадавых пагадненняў аб спрошчаным пропуску прыгранічнага насельніцтва праз дзяржаўную мяжу. У той жа час кіраўнікі пагранічных войскаў адзначылі, што зараз на мяжы ўсё часцей адбываюцца злачыствы, звязаныя з нелегальнай міграцыяй і кантрабанднай дзейнасцю. У сувязі з гэтым штабы пагранічных войскаў Беларусі, Расіі і Украіны павінны ў першым паўгоддзі гэтага года выпрацаваць адзіныя падыходы і правесці сумесную пагранічную аперацыю.

Кіраўнікі пагранічных ведамстваў будуць настойліва ініцыіраваць перад міністэрствамі замежных спраў сваіх краін пытанне аб паскаранні разгляду праблемы рэадмісіі паміж дзяржавамі (зварот нелегальных мігрантаў на тэрыторыю краіны, з якой апошнія перасякалі мяжу).

Па меркаванню старшыні Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі Аляксандра Паўлоўскага, сёння паміж пагранічнымі ведамствамі суседніх краін няма невырашальных пытанняў.

**Сяргей КУРКАЧ, г. Гомель.**

*По просьбе чытачоў*

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА ПАДАТКААБКЛАДАННЕ ГРАМАДЗЯН. ЗЫХОДЗЯЧЫ НЕ З СУКУПНАГА ГАДАВОГА ДАХОДУ...

**Як, напэўна, многія ведаюць ужо, 7 сакавіка ў друку з'явіўся Дэкрэт Прэзідэнта «Аб мерах па ўрэгуляванню пытанняў, звязаных з вылічэннем падаходнага падатку з фізічных асоб зыходзячы з сукупнага гадавога даходу». У нашай газеце ўжо даваўся невялікі каментарый з нагоды гэтага дэкрэта. Аднак у сувязі з запытамі чытачоў варта звярнуцца да акрэсленых пытанняў зноў больш падрабязна.**

Найперш нагадаем асноўныя палажэнні дэкрэта. У адпаведнасці з ім прыпыняецца дзеянне адпаведных пунктаў па сукупнаму гадавому даходу ў Законе аб бюджэце на 1997 год і Законе аб асаблівасцях падаткаабкладання на 1998 год. Што гаворыцца ў гэтых пунктах? Чытаем у Законе на 1997 год: «Устанавіць з 1 студзеня 1997 года налічэнне падаходнага падатку з даходу фізічных асоб зыходзячы з сукупнага гадавога даходу. Дзяржаўнаму падатковаму камітэту ажыццявіць неабходныя мерапрыемствы...», у законе на 1998 год: «Захоўваецца налічэнне падаходнага падатку з фізічных асоб зыходзячы з сукупнага гадавога даходу». Такім чынам, палажэнні гэтых пунктаў прыпыняюцца, а Савету Міністраў у тым жа дэкрэце прадпісана ў месячны тэрмін падрыхтаваць законапраекты адпаведных змяненняў і дапаўненняў ва ўказаныя законы.

Дэкрэт таксама вызначае (звернем асаблівую ўвагу), што падаходны падатак з даходаў, атрыманых фізічнымі асобамі ў мінулым годзе, належыць вылічаць у адпаведнасці з нормамі Закона «Аб падаходным падатку з грамадзян» (асаблівая падкрэслім: зыходзячы менавіта з Закона аб падаходным падатку, а не са знакамітых змяненняў і дапаўненняў у Метадычных ўказанні і бюджэтных законаў на 1997 і 1998 гады).

І яшчэ момант. Дэкрэт прадаўжае тэрмін прадастаўлення дэкларацый аб даходах за 1997 год да 15 красавіка, прадугледжаных тым жа Законам «Аб падаходным падатку з грамадзян».

Вось на апошнім моманце і спатыкнуліся асобныя чытачы: дэклараванне і сам сукупны даход, як быццам, адмяняюцца, і, разам з тым, тэрмін падачы дэкларацый прадаўжаецца...

У дадзеным выпадку варта прыгадаць адпаведныя палажэнні ўжо Закона «Аб падаходным падатку з грамадзян», які ў яго цяперашняй рэдакцыі прыняты на пачатку 1996 года. У ім, у прыватнасці, няма такога паняцця, як «сукупны гадавы даход», і разам з тым прадугледжана дэклараванне асобных відаў даходу.

А цяпер з дапамогай аднаго са спецыялістаў Мінскай гарадской падатковай інспекцыі адказваем на некаторыя найбольш характэрныя пытанні.

***Найперш, каго можа датычаць дэклараванне, адносна каго ўзгадана яно ў Законе аб падаходным падатку?***

Па словах нашага спецыяліста, дэкларуючаюцца сумы аўтарскіх узнагароджанняў, якія былі атрыманы на працягу года больш як ад аднаго суб'екта гаспадарання (адпаведна, калі аўтарскія ўзнагароджанні былі толькі з адной крыніцы, г. зн. толькі ад аднаго суб'екта, — дэкларавання не трэба). Па словах жа спецыяліста, так даведзена ў адпаведных Метадычных указаннях падатковых органаў, хоць тут жа варта падкрэсліць: непасрэдна ў Законе аб падаходным падатку адносна дэкларавання па сумах аўтарскіх узнагароджанняў не сказана нічога.

Пра дэкляраванне ўзгадваецца ў законе і адносна тых грамадзян, якія атрымлівалі даходы ад работ па дагаворах грамадзянска-прававога характару ці дагаворах падраду, калі такія работы насілі сістэматычны характар (г. зн. былі працягласцю больш двух месяцаў у годзе) і пры ўмове таго, што даходы ад такіх работ таксама атрымліваліся не ў адным суб'екта гаспадарання (калі ў аднаго — зноў-такі нічога не трэба). Але і ў дадзеным выпадку ёсць пэўныя нюансы. У тым жа законе сказана, што канчатковая сума падатку з такіх даходаў вызначаецца падатковымі органамі на падставе паведамленняў суб'ектаў гаспадарання і (або) дэкларацый. Фраза «і (або)» дапускае, што дэкларацыі ў дадзеным выпадку несці не абавязкова (дастатковая паведамленняў бухгалтэрый суб'ектаў гаспадарання), у падатковых органах настойваюць: «Пажадана».

У адпаведнасці з Законам аб падаходным падатку дэкларуюцца таксама даходы, прыраўнаваныя да даходаў ад прадпрымальніцкай дзейнасці (гэта даходы ад здачы кватэр, маёмасці і іншыя), і, вядома ж, даходы, атрыманыя грамадзянамі непасрэдна ў якасці прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы.

І, нарэшце, дэкларуюцца даходы, атрыманыя за мяжой, або даходы, якія прыйшлі з-за мяжы. Пры гэтым па такіх відах даходаў прадугледжана прадстаўленне дэкларацый у 15-дзённы тэрмін у кожным выпадку пасля іх атрымання або прыбыцця з-за мяжы (па тых жа відах даходаў, якія названы вышэй, падаюцца гадавыя дэкларацыі, адносна іх і прадоўжаны тэрмін падачы ў дэкрэце).

***Ці прадугледжана складанне даходаў паміж сабой, напрыклад, па дагаворах падраду, а таксама гэтых даходаў з даходамі ад іншых відаў дзейнасці, скажам, з даходамі на асноўнай рабоце, і, адпаведна, ці робіцца пераразлік падатку, зыходзячы ўжо з агульнай сумы выплат?***

Згодна з Законам аб падаходным падатку, па кожнаму віду даходаў бярэцца свой падатак, які вызначаецца менавіта для гэтага віду даходаў, і толькі. Гэта азначае, што і тыя віды даходаў, якія дэкларуюцца або адносна якіх прадугледжаны пераразлік падатку за год, падсумоўваюцца толькі паміж сабой, па кожнаму віду асобна, г. зн. даходы пэўнага віду ні з якімі іншымі відамі даходаў не складаюцца. Адпаведна, па кожнаму з іх асобна бярэцца свой падатак, але ўжо з улікам (пасля дэкларавання) агульнай сумы выплат па дадзенаму віду даходаў за год. Стаўкі падатку — прапарцыянальныя месячным стаўкам.

***Ці трэба прадстаўляць дэкларацыю чалавеку, які працаваў на асноўным месцы работы і яшчэ падзарабляў у іншым месцы па сумяшчальніцтву?***

Не трэба. У адпаведнасці з Законам аб падаходным падатку, даходы за работу па сумяшчальніцтву, а таксама ўзнагароджанні, прэміі, выплачаныя ў іншых месцах, не дэкларуюцца.

***Якія віды ўзнагароджанняў трапляюць пад катэгорыю аўтарскіх?***

Узнагароджанне не аўтарскае прысутнічае там, дзе існуе аўтарскае права.

А ў заключэнне яшчэ раз звернемся да пытання адносна таго, **каму дэкларацыю за 1997 год трэба несці абавязкова.**

Як, напэўна, зразумела ўжо, падатковыя органы выступаюць за дэклараванне ва ўсіх вышэйуказаных выпадках.

Аднак, калі кіравацца строга літарай Закона аб падаходным падатку, згодна з нормамі якога, як прадпісваецца ў дэкрэце прэзідэнта, і належыць вылічаць падатак з даходаў грамадзян, атрыманых у 1997 годзе, кола дэкларантаў яўна звузіцца. Дэклараванне, па сутнасці, датычыць толькі людзей «вольных» прафесій — тых жа прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы (прычым для іх падатак, заплачаны ў цвёрдых сумах, не пераразлічваецца па выніках дэкларавання за год — так у Законе), і грамадзян, якія займаюцца дзейнасцю, прыраўнаванай да прадпрымальніцкай, а таксама людзей вольных жа творчых прафесій, якія таксама не мелі справы ні з якімі бухгалтэрыямі і, адпаведна, накont даходаў якіх нікто ніякіх звестак у падатковыя органы не мог прысылаць.

***І, нарэшце, удакладнім: а што ж вырашана зрабіць з сукупным гадавым даходам, які нарабіў шуму сёлета?***

У адпаведнасці з тым жа дэкрэтам, Савету Міністраў спачатку належыць вызначыць, што гэта такое — сукупны гадавы даход. А дакладней — СМ належыць у трохмесячны тэрмін падрыхтаваць законапраект аб унясенні змяненняў у Закон аб падаходным падатку, у якім, у прыватнасці, павінен быць акрэслены так званы састаў сукупнага гадавога даходу.

**Кар. «Звязды».**

*Вакол скандалу*

## «МАЛОЧНІКАВЫ» РЭКІ ЁСЦЬ. ДЗЕ «ЗЫГМАНТОВІЧАВЫ» БЕРАГІ?

**Скандальная сітуацыя, што склалася паміж прэзідэнтам адной беларускай фірмы «Пестры» Міхаілам Малочнікавым і вядомым беларускім футбалістам Андрэем Зыгмантовічам, набывае своеасаблівы каларыт — справа ясная, што справа цёмная...**

Нагадаем, што некалькі гадоў таму прэзідэнт фірмы паабяцаў футбалісту, які на той час гуляў у Іспаніі, абмяняць яго грошы ў Беларусі (сума «пераваўвала» за 100 тысяч долараў) і перадаць іх у рукі гаспадара. Гладка было на паперы, і, у рэшце рэшт, спадар Зыгмантовіч заявіў, што яго грошы «канулі ў Лету» — ні іх, ні Малочнікава. Зрэшты, з нагоды апошняга хвалявацца асабліва і не трэба было, бо ён зараз знаходзіцца ў следчым ізалятары.

Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» суддзя Савецкага раёна Мінска Марына Фёдарава, на днях прайшло судовае слуханне, якое, аднак, так нічым і не скончылася — справа адпраўлена на даследванне. А крымінальная справа «па факту» Андрэя Зыгмантовіча і наогул закрыта. Застаецца толькі задаваць пытанні, як яна магла быць «закрыта», калі футбаліст, хоць і вядомы, дзейнічаў «у абыход падаткаў». Хацелася б запытацца і ў самога Андрэя, аднак ён, на жаль, у Іспаніі.

**Саша ПОПЕЛЬНЫ.**

## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ
### 13 САКАВІКА, ПЯТНІЦА

**Рэкамендацыі.** Сёння ў 7 гадзін па маскоўскаму часу пачнецца месяцовае зацьменне. Будзьце гранічна ўважлівымі і асцярожнымі. Кантралюйце ўсе свае думкі, словы і ўчынкі, каб не закласці негатыўнай праграмы на доўгія гады. Не забывайце, што аўра зацьмення працягнецца да 15 сакавіка. Не прымайце нічога важнага. Будзьце справядлівымі і сумленнымі. Недапушчальныя агрэсія і скандалы. Карысныя любыя формы аскетызму і ўстрымання. Супрацьпаказана забойства жывёлы. Сёння добра памінаць памерлых. Можна заняцца работай па дому, гаспадарчымі справамі. Гэта час паста. Не рэкамендуецца есці яблыкі.

**Адзенне.** Прытрымлівайцеся чорнага, цёмна-сіняга і карычневага колераў, пазбягайце жоўтых, чырвоных і аранжавых колераў.

**Прыметы.** Калі вас некалькі раз аклікнулі па імені або вам здаецца, што вас клічуць, — знак дапамогі анёла-ахоўніка. Калі пад вамі штосьці правальваецца, — знак псавання, сурокаў. Акно раскрываецца ад ветра або разбіваецца — да цяжкіх перамен у вашым жыцці. Парваць абутак або выпадкова адарваць абцас — да страты абароны.

**Сны.** Сны значныя толькі на ўсходзе сонца. Лятаць над зямлёй або пачуць сваё імя — знак абароны і ўдачы. Кудысьці праваливацца або быць засыпаным зямлёй — да цяжкай хваробы.

**Медыцына.** Неспрыяльны час для любых хірургічных умяшанняў. Не рэкамендуецца пачынаць сур'ёзнае лячэнне. Дзень небяспечны для хворых дыябетам, ім лепш не есці цыбулі, капусты і якк. Слабы страўнік.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

### СЁННЯ

**Сонца**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.33 | 18.07 | 11.34 |
| Віцебск – | 6.23 | 17.56 | 11.33 |
| Магілёў – | 6.22 | 17.56 | 11.34 |
| Гомель – | 6.16 | 17.56 | 11.40 |
| Гродна – | 6.45 | 18.24 | 11.39 |
| Брэст – | 6.48 | 18.24 | 11.36 |

**Месяц**

**Поўня 13 сакавіка**

***З 16.41 — 15-я месяцавыя суткі.***

***Месяц — у сузор'і Дзевы.***

**Імяніны**

**Пр. Пракопія, Ціта**

**К. Юстыны, Бернарда, Алоіза**

### Надвор'е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі снег. Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Магілёве — 2—4, Гродне — 1—3, Гомелі — 0—2 градусы марозу, у Брэсце каля нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, часам снег, месцамі на дарогах галалёдзіца. Тэмпература ўначы 3—8, месцамі да 12 градусаў марозу, удзень — мінус 3 — плюс 2.

**На пытанні ўдзельнікаў «прамой лініі» «Звязды» адказвае беларускі ваенны пракурор генерал-маёр юстыцыі Вячаслаў ЛЮБАВІЦКІ**



# Ваенная пракуратура не толькі карае, але і абараняе

### «Дзедаўшчына» — праблема не толькі арміі

**— Вячаслаў Віктаравіч, завуць мяне Віктар Васільевіч, прабачце, але прозвішча не магу сказаць. Сын мой служыць у Асіповіцкім раёне. Такое ўражанне, што ў часці сапраўдны разброд.**

— Ці не вельмі рэзка, Віктар Васільевіч?

**— Не. Мяркуйце самі. Калі малады салдат прыняў прысягу, то ён павінен аддаць стараслужачым 250 тысяч рублёў, калі заступае ў нарад — купляць каву, цукар, цыгарэты, а таму, хто не курыць, — шакаладку. Маладыя плацяць «дзядам» за тое, што тыя дазваляюць ім у халоднае надвор'е апрануць світэр. Гэта ж здзек! Не дзіва, што спакойныя і прыстойныя хлопцы баяцца ісці служыць у армію...**

— Дзякуй за інфармацыю, мы правядзём у гэтай часці поўную праверку па нестатутных адносінах.

**— Вы пачытайце пісьмы дзяцей.**

— Не маем на гэта права, Віктар Васільевіч, гэта пісьмы, адрасаваныя бацькам. У нас няма цэнзуры. Ваеннай пракуратуры вядома сітуацыя, калі нярэдка старэйшыя салдаты здзекуюцца з маладых. Мы ўсімі мерамі змагаемся з гэтай заганай. У мінулым годзе такіх фактаў выяўлена ажно 139, што на шэсць працэнтаў больш, чым пазалетась.

**— Чаму ж так атрымліваецца? Гэта ж дзеці.**

— Прычын тут, на наш погляд, шмат. Адна з іх — поўны развал той адладжанай сістэмы па выхаванню юнакоў і дзяўчат, калі камсамол займаўся патрыятычным выхаваннем, даармейскай падрыхтоўкай хлопцаў. Другая не менш значная прычына — прызыў у армію асуджаных, якія адчуваюць сваё вяршэнства і жорстка праяўляюць яго. І трэцяя прычына — прызыў у армію па тэрытарыяльнаму прынцыпу, калі ёсць большая магчымасць наведаць салдата. Пры гэтым прыносяць яму спіртныя напоі. Мы выяўляем факты, звязаныя з нестатутнымі адносінамі, і, як правіла, узбуджаем крымінальную справу. Разбяромся і з сітуацыяй, якая склалася ў часці, дзе служыць ваш сын.

**— Дзякуй, вельмі спадзяюся.**

* * *

**— Вячаслаў Віктаравіч, звоніць вам былы вайсковец Ігар Мацвееў. Дазвольце мне выказацца і задаць пытанне.**

— Калі ласка, Ігар.

**— Не памылюся, калі скажу, што вам ужо званілі наконт «дзедаўшчыны» ў войску, ухіленняў ад службы ў арміі, уцёкаў з часцей.**

— Гэта сапраўды так. І не адзін званок ужо быў.

**— Я так і думаў. Але, на маю думку, негатыўна адбіваецца і служба дома. Я, напрыклад, служыў на Камчатцы, далёка ад Беларусі. Таму не было куды бегчы. А зараз бягуць, ухіляюцца ад службы. Ці многа такіх, хто з-за «дзедаўшчыны» бяжыць з часці?**

— Тое, што салдаты ўхіляюцца ад службы ў арміі ўцёкамі менавіта з-за «дзедаўшчыны», ёсць, але вельмі мала: адзін-два выпадкі ў год. Калі мы знаходзім салдата, які збег, то абавязкова высвятляем прычыны гэтага ўчынку. І калі гэта звязана сапраўды з «дзедаўшчынай», то ён вызваляецца ад крымінальнай адказнасці. Уцякаюць у асноўным з-за нежадання служыць у арміі, непадрыхтаванасці да значных змен у прывычным жыцці, слабага псіхалагічнага выхавання, з-за недахопаў у фізічным і псіхалагічным здароўі.

**— Якое пакаранне нясуць уцекачы?**

— Згодна з дзеючым заканадаўствам, за ўхіленне ад воінскай службы ў мірны час, у залежнасці ад віду ўхілення, прадугледжана пакаранне ад 3 месяцаў у дысцыплінарным батальёне да 7 гадоў пазбаўлення волі, за гэтыя ж дзеянні ў ваенны час ці ў баявой абстаноўцы прадугледжана смяротнае пакаранне. Для ваеннаслужачых тэрміновай службы ў адпаведнасці з арт. 33 КК РБ у выпадках, калі суд, улічваючы акалічнасці справы і асобу асуджанага, палічыць мэтазгодным, то замест пазбаўлення волі на тэрмін да 3 гадоў ён можа накіраваць у дысцыплінарны батальён на той жа тэрмін. Адбыўшы пакаранне, ваеннаслужачы вяртаецца ў часць даслужваць. Знаходжанне ў дысцыплінарным батальёне судзімасцю не лічыцца.

**— Алё. Антон Карэцкі турбуе. Добры дзень, Вячаслаў Віктаравіч.**

— Добры дзень, Антон.

**— Так сталася, што я толькі што чуў ваш адказ пра ўцёкі з часцей і дысцыплінарны батальён...**

— Магчыма. Тут працуюць два нумары тэлефона і ты, мабыць, чакаў, пакуль я адкажу па адным з іх.

**— Задам кароткія пытанні ў працяг папярэдніх. Якія функцыі дысцыплінарных батальёнаў?**

— Па-першае, у нас адзін такі батальён.

**— Былі ж два.**

— Так. Але ў параўнанні, напрыклад, з 1992 годам у нас амаль у два разы скарацілася злачыннасць у войску, таму неабходнасць у двух дысбатах проста адпала. Тлумачу, што такое дысцыплінарны батальён. Гэта не папраўча-працоўная калонія. Калі, напрыклад, салдат трапіў у дысбат і на працягу знаходжання там паводзіў сябе, як кажуць, прыстойна, то ён не лічыцца асуджаным. Ён — чысты. Праўда, ёсць розныя злачынствы. Калі чалавек асуджаны на тэрмін, большы за тры гады, то ён адпраўляецца ў папраўча-працоўную калонію.

**— Колькі чалавек у дысбаце цяпер?**

— Каля 260.

**— І ўсе яны потым нармальна даслужваюць?**

— Па статыстыцы, якая вядзецца, 99 працэнтаў з іх даслужваюць нармальна. У мінулым годзе толькі адзін салдат, адбыўшы пакаранне ў дысцыплінарным батальёне, зноў учыніў злачынства.

**— А ўмовы ўтрымання?**

— Нядрэнна там я быў. Умовы нармальныя: і для працы, і для воінскай вучобы, і для адпачынку.

**— Як вырашаюцца падобныя пытанні ў краінах Усходняй і Заходняй Еўропы?**

— У еўрапейскіх краінах існуюць ваенныя турмы, у якіх адбываюць пакаранне ваеннаслужачыя, куды яны накіроўваюцца ці па рашэнню камандзіра на тэрмін да 6 месяцаў, ці па рашэнню суда на больш працяглы тэрмін.

**— Ля тэлефона Сямёнаў. Я, магчыма, памылюся, але многае залежыць ад сяржанцкага саставу. Не хто іншы як сяржант знаходзіцца бліжэй да салдат і можа папярэдзіць многія нестатутныя з'явы, якія здараюцца цяпер у часцях.**

— Вы маеце рацыю. Сяржанцкі састаў вымушае жадаць лепшага.

**— Але як гэта зрабіць?**

— У першую чаргу, набраць па кантракту людзей, якія б падтрымлівалі на належным узроўні дысцыпліну. Але трэба стварыць для іх нармальныя ўмовы працы, каб яны не думалі, як пракарміць сям'ю, каб мелі кватэры, добрую зарплату і г. д.

**— Пазваніў Уладзімір Паўлавіч Бярэзін. У мяне канкрэтнае пытанне. Вядома, наколькі падрывае прэстыж арміі «дзедаўшчына». На мой погляд, адна з прычын яе існавання — нядобрасумленныя адносіны афіцэраў да выканання сваіх службовых абавязкаў.**

— Вы маеце рацыю. Гэта адна з прычын. Пра іншыя мы толькі што гаварылі з чытачом, які да вас пазваніў на «прамую лінію». Пытанне, падкрэслю, вы ставіце правільна. Для таго, каб афіцэры маглі штодзённа ўмацоўваць воінскую дысцыпліну ў войсках, яны самі павінны быць прыкладам для салдат. На жаль, не заўсёды яны такімі з'яўляюцца. Таму пракуратура разам з камандаваннем Узброеных Сіл рэспублікі прымаюць усе неабходныя меры, каб нашым дзецям служылася спакойна, цікава.

**— Прабачце, колькі ні змагаемся з гэтым, але балюча глядзець, як здзекуюцца дзеці з дзяцей. Мяркую, афіцэр павінен навесці парадак. Калі не змог гэтага зрабіць і здарылася надзвычайнае здарэнне, ён павінен несці такое ж пакаранне, як і той салдат, што ўчыніў яго. Камандзіры адказныя за ўсё.**

— І тут вы ў чымсьці маеце рацыю. Афіцэры ў такім разе прыцягваюцца да дысцыплінарнай адказнасці. Нярэдка мы дабіваемся звальнення іх са службы. У Крымінальным кодэксе ёсць артыкулы 249, 249-1, якія прадугледжваюць адказнасць за злоўжыванне ўладай, службовым становішчам ці бяздзейнасцю ўлады, халатныя адносіны да службы. Пры гэтым, каб прыцягнуць да крымінальнай адказнасці, павінны быць такія ўмовы — сістэматычнасць, карыслівасць, некаторая асабістая зацікаўленасць, істотны ўрон, цяжкія наступствы. Спалучэнне гэтых прымет назіраецца рэдка, таму часцей прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці афіцэры, якія самі займаюцца рукапрыкладствам. Закон — адзіны для ўсіх ваеннаслужачых.

### Закон — адзіны для ўсіх ваеннаслужачых

**— Турбуе вас, Вячаслаў Віктаравіч, ваеннаслужачы Мікалай. Ведома, што ў мінулым годзе асуджана ўсё кіраўніцтва Мінскага гарнізоннага шпіталя. Ці рабіла пракуратура захады, каб адсачыць гэтую справу ў іншых шпіталях?**

— У сувязі з тым, што ў Мінскім шпіталі быў крадзеж прадуктаў, мы патрабавалі ад міжгарнізонных пракуратур правесці падобныя праверкі ва ўсіх ваенных шпіталях краіны. Да гонару іх работнікаў, ніякіх негатыўных фактаў выяўлена не было, сістэма тут не прасочваецца. Але гэта наша пастаянная работа, таму ў парадку нагляду пракуратура будзе пастаянна праводзіць падобныя мерапрыемствы, каб папярэдзіць і, у выпадку выяўлення злачынстваў, пакараць вінаватых.

— І яшчэ адно пытанне. Нядаўна пачалі праводзіць тэндэры па закупцы прадуктаў харчавання. Які сэнс гэтага?

— Каб больш танна закупіць для арміі прадукты. Гэта выгадна.

— Наколькі адчувальна гэта ў фінансавым плане?

— У мінулым годзе, напрыклад, у выніку праведзеных тэндэраў Міністэрства абароны пры закупцы рыбы свежамарожанай і алею зэканоміла каля 8 млрд. рублёў.

— Ці не будзе развівацца тут карупцыя, хабарніцтва?

— Якраз усё гэта і будзе выключаць тэндэр, калі некалькі арганізацый будуць змагацца за атрыманне заказу на пастаўку прадуктаў харчавання для арміі. Да таго ж ёсць беларуская ваенная пракуратура, камандаванне арміі.

**— Прабачце, Вячаслаў Віктаравіч, як закончылася справа, звязаная са смерцю салдата? — такое пытанне задаў Аляксандр Міронаў.**

— Так, выпадак на глебе нестатутных узаемаадносінаў, які давёў да смерці радавога Лоечкі, сапраўды меў месца — упершыню за час існавання Узброеных Сіл Беларусі з 1992 года. Гэта страшная трагедыя. Мы правялі расследаванне, і шэсць ваеннаслужачых, якія прымалі ўдзел у збіванні салдата, прыцягнуты да крымінальнай адказнасці: два — за наўмыснае забойства, астатнія — за нанясенне тых ці іншых цялесных пашкоджанняў. Справа зараз знаходзіцца ў беларускім ваенным судзе, дзе яна хутка будзе разгледжана. Ва ўсіх часцях і злучэннях праведзена сур'ёзная выхаваўчая і растлумачальная работа, каб не дапусціць падобных фактаў.

**— Алё, хацеў бы пагаварыць з пракурорам.**

— Калі ласка, вас слухае беларускі ваенны пракурор Любавіцкі.

**— Вячаслаў Віктаравіч, у мяне да вас такое пытанне. Чаму «Звязда» да гэтага часу не надрукавала рэагаванне ваенных на артыкул «Дзяржаўны інспектар пад дулам аўтамата». Факты ў ім мяне проста ўразілі.**

— Я ў курсе спраў па гэтай сітуацыі.

**— Усім вядома, што вядзе гэту справу беларуская ваенная пракуратура. Нядаўна быў на радзіме, дзе якраз і адбываліся падзеі, апісаныя ў артыкуле. У іх людзі страцілі надзею, што справядлівасць пераможа. Аказваецца нават ціск на тых, хто расследуе справу, на інспектара, якія звярнуліся ў пракуратуру. Ніхто чамусьці не прыехаў на месца, каб разабрацца.**

— Прабачце, як звяртацца да вас?

**— Казакоў маё прозвішча, Уладзімір Барысавіч.**

— Уладзімір Барысавіч, магу далажыць вам, што справа вядзецца. Аб'ектыўна. Усебакова. Інакш і быць не можа. На пракурораў ніхто не цісне, а калі гэта ёсць у адносінах да інспектараў, то няхай яны звернуцца з заявай. Паведамляю, што на мінулым тыдні там быў следчы нашай пракуратуры, усе ўдзельнікі канфлікту дапытаныя. Хутка будуць праведзены вочныя стаўкі. Давайце пачакаем. Калі будзе ўстаноўлена віна, як вы сказалі «аўтаматчыкаў», то, безумоўна, яны будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Усё будзе па закону.

**— Дзякуй вам. Будзем спадзявацца.**

* * *

**— Званю з Полацка. Міхаіл Ткачоў. Скажыце, ці шмат злоўжыванняў пры размеркаванні жылля для ваенных?**

— Такія факты ёсць. Па выкананню жыллёвага заканадаўства мы правялі шмат праверак, вынеслі шмат пратэстаў на размеркаванне жылля, прыцягнута да адказнасці шмат адказных асоб. Толькі ў мінулым годзе міжгарнізоннымі і Беларускай ваеннай пракуратурай па выніках праверак унесена 17 прадстаўленняў, у тым ліку два міністру абароны, а таксама 12 прадпісанняў аб ліквідацыі парушэнняў жыллёвага заканадаўства, чатыры пратэсты на незаконныя загады органаў ваеннага кіравання. Па патрабаванню ваенных пракурораў прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці 27 службовых асоб, 7 з якіх пакараны міністрам абароны. Мною была ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах да былога старшыні жыллёвай камісіі Пінскага гарнізона палкоўніка запасу Бондара па фактах яго злоўжыванняў пры размеркаванні жылля. Цяпер справу разглядае суд.

**— У працяг гэтага пытання, Вячаслаў Віктаравіч. Шмат прыкладаў, калі былыя ваеннаслужачыя, якія не прынялі прысягу Узброеных Сіл Беларусі, выехалі за яе межы, але пакінулі за сабой кватэры. Ці нельга іх забраць і аддаць тым ваенным, хто мае ў іх вострую патрэбу?**

— Добрае пытанне, Міхаіл. Мы, дарэчы, гэтай праблемай займаемся. Сапраўды, некаторыя афіцэры паехалі ў Расію, ва Украіну, але пакінулі за сабой кватэры. Мы правялі па гэтаму пытанню некалькі праверак, толькі ў мінулым годзе было прад'яўлена 69 іскаў аб вызваленні такіх кватэр. З іх задаволены ўжо 33. Гэта значыць, што 33 кватэры намі вернуты нашым вайскоўцам. Работа ў такім накірунку працягваецца.

**— Чым выклікана стварэнне ваеннай пракуратуры ў пагранічных войсках? — такое пытанне задаў Ігар Кулакоў. — Прычына, мабыць, у значным росце злачыннасці ў гэтых войсках?**

— Сапраўды, у мінулым годзе значна ўзрасла колькасць учыненых у пагранічных войсках злачынстваў: у 2,5 раза — колькасць нестатутных узаемаадносінаў, у 4 разы — злачынстваў супраць падначаленасці і парушэнняў правілаў каравульнай службы, у 5 разоў — рукапрыкладства, у 2 разы — хабарніцтва.

**— Нават страшна...**

— Праўда, гэта тлумачыцца, Ігар, не столькі тым, што там творыцца нешта незразумелае, колькі тым, што камандаванне войскаў і ваенная пракуратура больш увагі ўдзялялі навядзенню там дысцыпліны і парадку. Стварэнне пракуратуры ў пагранічных войсках дазволіць нам весці работу яшчэ больш эфектыўна.

*(Заканчэнне будзе)*

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў да друку Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

---

### ПРЫХІЛЬНІКІ ІДЭІ СЛАВЯНСКАГА АДЗІНСТВА РЫХТУЮЦЦА ДА З'ЕЗДУ

**Днямі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Валерый Драко і Сяргей Касцян пабывалі ў Чэшскай Рэспубліцы. Парламентарыі ўваходзяць у састаў арганізацыйнага камітэта па правядзенню Сусветнага з'езда славян.**

Як паведаміў С. Касцян, у Празе было вырашана, што форум адбудзецца ў сталіцы Чэхіі 2—5 чэрвеня гэтага года. Сваіх дэлегатаў на з'езд накіруюць 12 краін Еўропы, якія лічаць сябе славянскімі дзяржавамі. Кажучы пра прадстаўніцтва на мерапрыемстве беларускага боку, С. Касцян адзначыў, што зараз толькі разглядаюцца варыянты саставу нашай дэлегацыі. Але разам з тым дэпутат выказаў спадзяванне, што яе ўзровень будзе даволі высокім, паколькі ідэі славянскага адзінства падзяляюць як у парламенце, так і ва ўрадзе. В. Драко нават дапусціў, што беларускую дэлегацыю можа ўзначаліць Аляксандр Лукашэнка.

Адказваючы на пытанні журналістаў адносна мэтаў правядзення з'езду, удзельнікі аргкамітэта заўважылі, што нават звычайная сустрэча аднадумцаў з розных краін, абмен меркаваннямі і інфармацыяй будуць карыснымі.

Юрась ЛЯШКЕВІЧ.

---

### «Звязда»: тры пытанні да чытача

**Уладзімір ГІЛЕП, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры**

**1. Чаму вы чытаеце «Звязду»?**

— «Звязду» чытаю са студэнцкіх гадоў. Першы пасыл быў ад жадання лепш ведаць родную мову. Потым сувязь праз «Звязду» з жыццём краіны стала звычкай.

**2. Што падабаецца ў газеце?**

— Газета, як і чалавек, мае свой характар, менталітэт. У «Звяздзе» ён — беларускі, ён — мой.

**3. Чаго не хапае «Звяздзе» сёння?**

— Газеце — 80 гадоў. Узрост сталы і вучыць яе, што трэба, а чаго нельга рабіць — справа няўдзячная. Але ўсё ж жадаю: заўсёды аб'ектыўна адлюстроўваць неадольны працэс станаўлення на нашай зямлі дзяржаўнасці, адраджэння яе гістарычнай спадчыны.

# Здаецца... страт... які... сур'ёз... нацыяна... Яго...



**Яшчэ некалькі гадоў таму мы лічылі сябе вельмі багатымі. У нас была нафта, былі газ і вугаль... Сабе і людзям. Зараз усё гэта засталося ў іншай краіне. Усур'ёз мы можам экспартаваць толькі калійныя угнаенні. З гэтым складана мірыцца. Шукаючы выйсце, адны прапануюць адраджаць беларускі лён. Другія — зрабіць больш канкурэнтаздольнымі на рынку СНД нашы бульбу і лес. Трэція — раскруціць цукровы «махавік».**

**Песімісты «прызямляюць»: у дзяржавы сёння няма столькі грошай, каб рухаць любы з праектаў. Ім адказваюць: сёння няма — заўтра таксама не будзе, калі не шукаць і не зарабляць. І напамінаюць пра магчымую салідную аддачу руплівасці.**

**Мэтазгоднасць і рэальнасць масіраванага прарыву на знешнія рынкі змогуць абгрунтаваць (або адхіліць) спецыялісты. У свой час мы папросім іх падзяліцца разлікамі. Сёння нас цікавіць крыху іншае. Галіна, на якую прапануецца зрабіць стаўку, наколькі яна жыццяздольная? Скажам, тая ж цукровая прамысловасць. Наша газета за апошні час двойчы пісала пра стан спраў на цукровых заводах — скідальскім і слуцкім. Абодва калектывы не проста «на плаву», яны эфектыўна працуюць. І вось сёння трэці адрас у працяг тэмы — Жабінкаўскі цукровы завод. Творчую брыгаду «Звязды» прыняў генеральны дырэктар Генадзь Іванавіч ВЯЛЬКО. На заводах галіны ён працуе больш за 30 гадоў. Чвэрць веку — дырэктарам. Так што субяседнік у нас надзвычай кампетэнтны.**

## Беларускія заводы — не «слабакі»

**— Генадзь Іванавіч, давайце напачатку скажам чытачу, чым ваша прадпрыемства ўсё ж адрозніваецца ад трох астатніх.**

— Галоўнае адрозненне — яно больш магутнае. Па аб'ёмах перапрацоўкі. І гэта пры тым, што беларускія заводы — далёка не «слабакі».

**— Значыць, вам і выжываць у смутныя часы было цяжэй за іншых. У такім разе падзяліцеся, як вы ўстаялі. Гэты вопыт па-ранейшаму актуальны.**

— Адны мітынгавалі, другія кідаліся ў нейкія крайнасці ў пошуках новых, больш выгадных, рынкаў збыту. А мы працавалі, працавалі і працавалі. Пакуль дэмакратыя «перабрадзіла», зрабілі рэканструкцыю, абнавілі асноўныя фонды. У самыя цяжкія гады больш сціплымі тэмпамі рэалізавалі сацыяльную праграму (напрыклад, менш будавалі жылля, хоць усё роўна будавалі), менш сродкаў маглі ўкласці ў развіццё інфраструктуры. Грошай хапала толькі на зарплату людзям і на развіццё вытворчасці.

**— Прабачце, на развіццё ці ўсё ж захаванне?**

— Усё ж на развіццё. Таптанне на месцы адразу адаб'ецца на ўзроўні тэхнічнай аснашчанасці. Значыць, на тэхналогіі.

Але я быў бы няшчырым, калі б асобна не сказаў пра бясспрэчную ролю дзяржавы ў выжыванні цукровай галіны. Пяць гадоў таму пастановай Савета Міністраў была зацверджана рэспубліканская праграма «Цукар». Дзякуючы гэтаму нам штогод, пачынаючы з 1994-га, выдзялялі па 500 тысяч долараў (калі браць у доларавым эквіваленце). Атрыманыя ад дзяржавы і заробленыя самастойна сродкі мы і ўкладвалі ў вытворчасць. Прыкладна на 70 працэнтаў абнавілі абсталяванне.

**— Вы можаце сказаць, што самыя складаныя гады засталіся ззаду, што вы знайшлі агульную мову з яго вялікасцю Рынкам?**

— Ведаеце, нашаму заводу 35 гадоў. Першую прадукцыю выдалі ў 1963-м. За гэты час адмабілізавалі калектыў, стварылі добрую вытворчую базу, навучыліся выпускаць цудоўны цукар. Так што за здольнасць свайго калектыву перадольваць цяжкасці я ўвогуле спакойны. Іншая справа, што за заводам трэба пастаянна глядзець. «Выціскаць» з сыравіны максімум высакаякаснага прадукту.

Праўда, і сыравіна павінна быць тэхналагічнай. Мы працуем не самі па сабе, а завязаны ў вельмі цесны вытворчы ланцужок са шматлікімі калгасамі і саўгасамі сваёй сыравіннай зоны. І калі мы разам нешта не дагледзім на палях і ўпусцім хоць адзін сезон — завод і сыравінную зону ніхто не ўратуе.

## Дырэктар — на заводзе, душа — у полі

**— Здаецца, ваша прадпрыемства сапраўды гігант: на яго працуюць гаспадаркі 12 раёнаў. Чаму ўсё ж такая велізарная зона?**

— Каб у поўным аб'ёме, гарантавана забяспечыць патрэбнасці завода ў сыравіне. Карыстаючыся магчымасцю, я хацеў бы падзякаваць праз газету працаўнікам наступных гаспадарак: «40 гадоў Кастрычніка» Іванаўскага раёна, імя Дзімітрова Кобрынскага, «Астрамечава» і імя Дзяржынскага Брэсцкага, «Савецкая Беларусь» Камянецкага, імя Куйбышава і «Прамень» Жабінкаўскага раёнаў.

У цэлым найбольш стабільна з намі працуюць Іванаўскі і Кобрынскі раёны. Нядаўна Брэсцкі аблвыканкам прыняў рашэнне нарошчваць вытворчасць цукровых буракоў: сёлета — на 15 працэнтаў, на наступны год — на 25, да 2000-га года — у паўтара раза. Якраз яны і пачалі першымі больш настойліва. яго выконваць.

Вакол завода складваецца касцяк гаспадарак, у якіх да «салодкага кораня» адносяцца даволі адказна. Лепшыя з іх ужо сёння атрымліваюць па 320—350 цэнтнераў з гектара. (А мотальскі «40 гадоў Кастрычніка» выйшаў на рубеж 470 цэнтнераў.) Тут выконваюць патрабаванні агратэхнікі, стараюцца максімальна механізаваць працэсы. На гэтым фоне добры вынік дало прымяненне насення замежнай селекцыі. У прыватнасці, за апошнія два гады паднялася цукрыстасць буракоў.

Але ў сыравіннай зоны дастаткова праблем. Многія звязаны якраз з яе памерамі. Пачнём з характэрнага прыкладу. Саўгас «Новае жыццё» Столінскага раёна вязе свой ураджай буракоў у Пінск, на наш прыёмны пункт. Гэта за 110 кіламетраў. З Пінска буракі робяць шлях да Жабінкі — яшчэ 190. Разам 300 кіламетраў! Такое вось велізарнае "плячо" перавозкі. Прыкіньце, колькі бензіну трэба спаліць. Мы падлічылі: столінскія бурачкі для нас у паўтара раза даражэйшыя, чым усе астатнія. Зразумела, як гэта адбіваецца на сабекошце прадукцыі.

За «блізкі свет» возім сыравіну і з Івацэвічаў.



*Генеральны дырэктар Генадзь ВЯЛЬКО.*

### З пункту погляду прэзідэнта краіны:

*«НЕАБХОДНА ПРАДОЎЖЫЦЬ РАБОТУ ПА ПАШЫРЭННЮ СЫРАВІННЫХ ЗОН ЦУКРОВЫХ КАМБІНАТАЎ. ТРЭБА КАНЦЭНТРАВАЦЬ ПАСЕВЫ ЦУКРОВЫХ БУРАКОЎ У НЕПАСРЭДНАЙ БЛІЗКАСЦІ АД МЕСЦАЎ ПЕРАПРАЦОЎКІ З ПАВЕЛІЧЭННЕМ ДОЛІ ІХ ПЛОШЧАЎ ДА 8—15 ПРАЦЭНТАЎ У СТРУКТУРЫ ПАСЕВАЎ».*

***(З даклада А. Р. Лукашэнкі на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях работы аграпрамысловага комплексу ў Гродне 5 сакавіка.)***

— Была б хоць якасць гэтых буракоў высокай, можна было цярпець, — расказвае далей генеральны дырэктар. — Але так супала, што ў далёкіх раёнах вымушаны вырошчваць «салодкі корань» на тарфяніках. Прыкладна 40 працэнтаў усіх нашых буракоў расце на тарфяніках. А таму яны нетэхналагічныя, дрэнна аддаюць цукар.

Акрамя ўсяго, прапашныя культуры тут прыводзяць да эрозіі глебы. Балоты ж асушалі, каб вырошчваць траву, развіваць жывёлагадоўлю... Так што ўслед за шматгадовым вырошчваннем буракоў прыйдуць пяскі.

Узяць вядомы некалі саўгас «Парахонскі» Пінскага раёна. У першыя пасля меліярацыі гады ўм атрымлівалі надзвычай высокія ўраджаі. А зараз нічога добрага не атрымліваецца, бо глеба ўжо не тая. Мы даём і бор, і мікраэлементы, а толку няма. Ідзе гніенне бурака, высокая заражанасць. Растуць неабгрунтаваныя затраты.

Так што калі падыходзіць і эканамічна, і экалагічна, і тэхналагічна правільна, то нельга ў Пінску, Століне і Івацэвічах вырошчваць цукровыя буракі.

## «Спадзяёмся на комплекснае вырашэнне праблемы»

**— Сапраўды, не па-гаспадарску атрымліваецца. Вы ставіце гэтыя пытанні перад мясцовымі ўладамі?**

— Мы стараемся з дапамогай аблвыканкама вырашыць праблему комплексна. Справа ў тым, што па сусветных стандартах сыравіннай зонай можна эфектыўна кіраваць, укладваць у яе сродкі і кантраляваць, калі яе гаспадаркі знаходзяцца ад завода на адлегласці не больш як 50 кіламетраў. Па глебавых, кліматычных умовах нашай вобласці гэта складана. Таму мы хацелі б спачатку зменшыць радыус зоны хаця б да 100 кіламетраў, а ўжо потым паступова выйсці на 70.

У сувязі з гэтым лічым, што даведзены дырэктыўнымі органамі дзяржаўны заказ на вырошчванне цукровых буракоў гаспадаркам Ганцавіцкага і Лунінецкага раёнаў не набліжае нас да рацыянальнай структуры сыравіннай зоны, а аддаляе.

На двух нядаўніх пасяджэннях аблвыканкама я прасіў адначасова з вызначэннем мераў па павелічэнню аб'ёмаў вытворчасці цукровых буракоў вырашыць і пытанні канцэнтрацыі пасеваў. Стрымліваюць апасенні, што калі перанесці вытворчасць гэтага прадукту толькі ў раёны, дзе сапраўды могуць вырасціць цудоўную сыравіну, то цяжка будзе сабраць неабходныя яе аб'ёмы.

**— А якія раёны, вы лічыце, спрыяльныя для вырошчвання высокатэхналагічнай сыравіны і пры гэтым аптымальна аддаленыя?**

— Камянецкі ў першую чаргу. Пружаны могуць быць. Тыя ж Жабінка, Брэст і Кобрын. А яшчэ Бяроза, Драгічын, Іванава. (Але ні ў якім разе не Маларыта з яе беднымі глебамі.)

Большасць ужо задзейнічана. Справа за аб'ёмамі.

**— Тым не менш, вы працуеце з калгасамі і блізкіх, і далёкіх раёнаў...**

— Мы не проста з імі працуем. Мы аказваем метадычную дапамогу, кантралюем якасць сыравіны на ўсіх этапах, забяспечваем гаспадаркі высакаўраджайным насеннем, угнаеннямі, гербіцыдамі, мікрадабаўкамі. Пастаўляем тэхніку па лізінгу. Тыя ж сеялкі, камбайны для ўборкі, апырсквальнікі. А на сходзе акцыянераў прынялі рашэнне стымуляваць гаспадаркі, якія здаюць не менш як 1500 тон цукровых буракоў. Па выніках мінулага се-



*Будаўнікі вядуць рэканструкцыю заводскай ЦЭЦ.*



*На ўчастку вакуумных апаратаў.*



*Работніцы цэха фасфасоўкі гатовага прадукту Святлана АДАМЧУК (злева) і Ала ПАЛЯШЧУК.*

*Творчая група выказвае шчырую падзяку за дапамогу намесніку генеральнага дырэктара Івану Лявонцьевічу ШАСТАКУ, галоўнаму інжынеру Мікалаю Паўлавічу КАВАЛЕЎСКАМУ, намесніку генеральнага дырэктара—галоўнаму аграному Аляксею Раманавічу ДОШЧЫКУ, галоўнаму тэхнолагу Аксане Мікалаеўне СІДО.*

*А яшчэ работнікам заводскай сталовай, якія гатуюць не горш, чым у мінскіх рэстаранах, і гаспадыням утульнай заводскай гасцініцы.*

## ДЗЕ ЦЯБЕ ШУКАЦЬ, БРАЦЕ?

***Я хачу знайсці свайго брата, які быў узяты ў палон немцамі ў 1945 годзе. Калі ласка, напішыце ў «Пытальніку», куды для гэтага трэба звярнуцца.***

**З. ПАГУДА,**
в. Ліпневічы Вілейскага раёна.

Дапамагчы вам, магчыма, зможа Служба пошуку Беларускага Чырвонага Крыжа. Для гэтага трэба напісаць адпаведную заяву, дзе пералічыць усё, што вам вядома пра свайго брата: імя, прозвішча, год і месца нараджэння і г. д. Даслаць яе трэба па адрасу: 220030, г. Мінск, вул. К. Маркса, 35. Калі будуць патрэбны нейкія дадатковыя звесткі, неабходныя для пошукаў брата, з вамі звяжуцца супрацоўнікі Службы пошуку. Уся працэдура бясплатная, але трэба ведаць, што пошукі могуць доўжыцца ў сярэднім 1,5—2 гады. Зразумела, ніхто загадзя не можа прадказаць і іх вынікаў.

## ХОЧАШ СПАКОЙНА ВЫРОШЧВАЦЬ АГУРКІ — ЗАПЛАЦІ ПАДАТАК ЗА ПАРНІК

**Прашу вас дапамагчы разабрацца з такім пытаннем. Нядаўна ў нашым сельсавеце я брала даведкі і там сказалі: «Не заплаціш падатак за парнік — даведку не дадзім». Я заплаціла яшчэ вясной, але ці справядліва гэта? У нас на вёсцы, ды і ў астатніх навокал, у многіх ёсць парнікі, у якіх мы вырошчваем агуркі для сябе і на рэалізацыю. Вясной па хатах хадзіла падатковая інспекцыя і патрабавала плаціць падатак за парнік. Не заплаціш, папярэджвалі, прымуць строгія меры. Я заплаціла 350 тысяч за тры соткі парніка. У падатковай страхоўцы было ўказана, што я плачу за часовае збудаванне. Дзяржаўны падатак за зямлю я заплаціла асобна. Дык што гэта за закон, на падставе якога бяруць падатак у мясцовы бюджэт? Я думаю, што гэтае пытанне цікавіць не толькі мяне, але і іншых жыхароў, тых, хто займаецца вырошчваннем агуркоў. Таму прашу адказ апублікаваць у газеце, але без указання прозвішча, бо не хачу лішніх праблем.**

**Столінскі раён.**

За адказам мы звярнуліся ў Дзяржаўны падатковы камітэт, аднак каментарый прыйшоў зусім з іншага месца.

Ліст чытачкі быў разгледжаны інспекцыяй Дзяржаўнага падатковага камітэта па Столінскаму раёну. У адказе, у прыватнасці, паведамляецца, што «збор з часовых збудаванняў (парнікоў) па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, ўстаноўлены рашэннем сесіі Столінскага Савета дэпутатаў ад 25.02.97 г. № 43 «Аб бюджэце раёна на 1997 год», адносіцца да збораў з карыстальніка згодна з п. 1 Парадку вядзення мясцовых падаткаў і збораў у 1997 годзе, прадугледжанага Палажэннем 1 да Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год» ад 21.02.97 г. № 20-3, дзе абмежаванняў іх няма з-за прадугледжанага слова «і іншыя».

Далей у афіцыйнай паперы гаворыцца, што ўвядзенне мясцовага збору з часовых збудаванняў (парнікоў) па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі не прыводзіць да двайнога падаткаабкладання, паколькі аб'екты абкладання па дадзенаму мясцоваму збору і зямельнаму падатку розныя. Так, у адпаведнасці з арт. 4 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб плацяжах за зямлю», аб'ектам падаткаабкладання з'яўляецца зямельны ўчастак, які ва ўстаноўленым парадку прадастаўлены ва ўладанне, карыстанне ці ўласнасць, а аб'ектам абкладання, згодна з Палажэннем аб парадку ўтварэння, вылічэння і збірання збору з часовых збудаванняў (парнікоў) па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, зацверджанаму рашэннем Столінскага раённага выканаўчага камітэта ад 25.03.97 г. № 139 «Аб мерах па выкананню рашэння Савета дэпутатаў ад 25.02.97 г. № 43 «Аб бюджэце раёна на 1997 год», з'яўляюцца часовыя збудаванні (парнікі), прызначаныя для вытворчасці сельгаспрадукцыі (агуркоў, памідораў і інш.).

Такім чынам, рашэнне Столінскага раённага Савета дэпутатаў ад 25.02.97 г. № 43 і Столінскага раённага выканаўчага камітэта ад 25.03.97 № 139 правамерныя і з'яўляюцца законам для выканання іх усімі грамадзянамі раёна, якія маюць часовыя збудаванні па вытворчасці сельгаспрадукцыі з мэтай яе далейшай рэалізацыі. За грамадзянамі, якія не ўплацілі гэты збор у 1997 годзе, лічыцца нядоімка па ўплаце збору і яны абавязаны яго ўплаціць у гэтым годзе па стаўках, якія дзейнічалі ў 1997 годзе. Грамадзяне, якія не ўплацілі або ўплацілі несвоечасова гэты збор, нясуць адказнасць у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія збіраюцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь», гаворыцца ў афіцыйным адказе.

***АД РЭДАКЦЫІ.** Улічваючы актуальнасць праблемы для іншых чытачоў, мы плануем вярнуцца да тэмы.*

## ЛЮДЗІ І АБСТАВІНЫ

# Вайна Пунсовай і Белай ружы.

## ПЕРАМОЖАНЫМ У ЁЙ АКАЗАЎСЯ АДЗІН ЧАЛАВЕК...

**Мне зараз цяжка і сказаць, колькі разоў звяртаўся да лёсу звычайнага вадзіцеля тралейбуса Віктара Буто. Па-мойму, не менш пяці на працягу двух гадоў. А можа і больш, праўда, ніякага выніку так і не атрымалася. Ні станоўчага, ні адмоўнага. А справа ў тым, што судовыя інстанцыі адмаўляюцца аднавіць Віктара Буто на старым месцы работы, у тралейбусным дэпо № 5 горада Мінска.**

### АХВЯРА ДЭМАКРАТЫІ

Паколькі справа даўняя, трэба хоць бы кораценька нагадаць жыццёвы шлях Віктара Мікалаевіча.

Па адукацыі ён тэхнік-тэхнолаг. Тэрміновую адслужыў у знакамітай Кушцы. Тры гады будаваў не менш знакаміты БАМ. Вярнуўся ў Беларусь, паступіў на курсы вадзіцеляў тралейбусаў. Адтуль яго Савецкі ваенкамат накіраваў ліквідаваць наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Непасрэдна ў трыццацікіламетровую зону. У выніку чаго, што лагічна, Віктар моцна сапсаваў здароўе. Бывала, ледзь не страчваў прытомнасць за абаранкам свайго тралейбуса.

На ніве грамадскай дзейнасці Віктар Мікалаевіч паказваў узоры актыўнасці. У 1991 годзе выйшаў з афіцыйнага прафсаюза і ўступіў у Канфедэрацыю працоўных Беларусі. Выйшаў і адтуль, калі пераканаўся, што яна мала чым адрозніваецца ад федэрацыі прафсаюзаў. Яшчэ ён паспеў пабыць старшынёй савета працоўнага калектыву, напаўзабытага цяпер утварэння. Паколькі Віктар Мікалаевіч наіўна меркаваў, што павінен абараняць інтарэсы гэтага працоўнага калектыву, а адміністрацыя мела крыху іншы пункт погляду, то апошняя стварыла адступніку адпаведныя ўмовы працы.

Так, у яго абвастрыліся хваробы (іх у Буто налічваецца не адна), аднак начальства гэта мала хвалявала: Віктар Мікалаевіч быў вымушаны адпрацоўваць усю змену. Хаця меў даведку, якая давала пэўныя льготы. Яго часта пазбаўлялі прэміяльных, хаця ён з'яўляецца вадзіцелем І класа, скаргаў ад пасажыраў не мае, увогуле не п'е і нават не курыць. Што стварала для адміністрацыі дадатковыя цяжкасці: як такога ўзорнага звольніць? А звальняць трэба было. Віктар Буто бударажыў вадзіцеляў, даказваючы ім, што яны таксама маюць правы і свабоды.

Але чаму быць, таго не мінуць. У 1993 годзе Віктар Мікалаевіч праходзіў абавязковае медабследаванне, для чаго «ліквідатарам» даецца вольны ад работы дзень. Буто яго і прайшоў, але прыхапіў ранак наступнага дня, а потым прыйшоў у дэпо праводзіць сход незалежнага прафсаюза, дзе меркавалася выслухаць прадстаўнікоў Мінгарвыканкама на прадмет паляпшэння ўмоў працы вадзіцеляў тралейбусаў. Прадстаўнікі так і не прыехалі, а свавольнага Буто адміністрацыя элементарна падлавіла: чаму, маўляў, не выйшаў на змену? Віктара Буто звольнілі. Нягледзячы на даведку медустановы, дзе ён праходзіў абследаванне.

З таго часу Віктар Мікалаевіч уключыўся ў перманентную дзейнасць іншага роду — судовую. Чатыры гады ён спрабуе аднавіцца на рабоце.

### ЭТАПЫ ВЯЛІКАГА ШЛЯХУ

Цікава, што першы судовы працэс у судзе Партызанскага раёна для вадзіцеля закончыўся паспяхова: яго аднавілі на рабоце. Як паказала далейшае, радавацца было яшчэ рана. Мінгарсуд рашэнне Партызанскага адмяніў. Другое слуханне праходзіла ў Першамайскім судзе, які вырашыў, што Буто звольнілі правільна...

У ходзе далейшых судовых разбораў упамінанне пра самы першы працэс неяк знікла. Вышэйшыя судовыя інстанцыі сталі абапірацца на выніку слухання справы ў Першамайскім судзе. Суддзя пры прыняцці рашэння па справе, канешне, мае поўную незалежнасць. Я не збіраюся на гэту яго незалежнасць замахвацца. І без газеты ёсць установа, якая па закону абавязана сумнявацца. Гэта пракуратура.

За чатыры гады Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь уносіла па справе Буто пяць (!) пратэстаў. З іх: адзін — у калегію па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда, два — у прэзідыум Вярхоўнага суда, і два — на пленум Вярхоўнага суда. З пяці пратэстаў двойчы іх прыносілі генеральныя пракуроры — спачатку В. Капітан, потым Бажэлка. Пахвальная ўпартасць, мне яна даспадобы, шкада, праўда, што выніку па-ранейшаму няма. Але добра ўжо тое, што Генеральная пракуратура пайшла, як гаворыцца, на прынцып і не збіраецца мяняць пазіцыю.

Апошні пратэст быў прынесены Генеральным пракурорам А. Бажэлкам 17 ліпеня 1997 года. На што пленум Вярхоўнага суда адказаў ужо прывычна: «... рашэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 1997 года, пастанову прэзідыума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 9 красавіка 1997 года пакінуць без змен, а пратэст Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь — без задавальнення». Кропка.

А цяпер давайце абстрагуемся непасрэдна ад гэтага выпадку. Няхай не крыўдуе на мяне Віктар Мікалаевіч, але яго справа, шчыра кажучы, трох грошаў не вартая. Усе раённыя суды імі завалены вышэй галавы. Выпадкі, калі адміністрацыя востра жадае пазбавіцца ад таго ці іншага работніка па той ці іншай прычыне, — з'ява ў нас распаўсюджаная. Нічога звышардынарнага, адным словам, у лёсе Віктара Буто няма. Таму мне неяк дзіўна назіраць за схваткай «гігантаў», якая цягнецца чатыры гады.

Што б гэта значыла? А тое б гэта значыла, што паміж структурамі, якія ажыццяўляюць прававое існаванне грамадства, ідзе скрытая, мне здаецца, ад пабочнага вока вайна, ці, больш мякка, саперніцтва. Іншага тлумачэння пры ўсім шчырым жаданні знайсці не магу. Здавалася б, радавая справа, і што тут дзяліць, тым больш, чалавек чакае канчатковага рашэння, урэшце, увесь гэты час не працуе і жыве на выпадковыя сродкі, — ну, пайдзіце яму насустрач, забудзьце на час аб карпаратыўных амбіцыях. Не. Справа прынцыпу. Вайна Пунсовай і Белай ружы.

Я часам думаю, што дзве гэтыя паважаныя і ўплывовыя ўстановы проста забылі з-за чаго, дакладней з-за каго, яны схапіліся не на жарт. Ва ўсякім разе, Віктара Буто на апошні пленум Вярхоўнага суда не запрасілі. Ствараецца ўражанне, што ён тут ужо як бы ні пры чым. Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа пайсці...

Я ўважліва і па некалькі разоў чытаў пратэсты Генеральнай пракуратуры. Прыкладна столькі ж і гэтак жа ўважліва я чытаў пастановы Вярхоўнага суда, яго пленумаў — таксама складзена пісьменна, калі не бачыць пратэстаў пракуратуры — пераконвае. Такім чынам, зубры юрыспрудэнцыі не могуць прыйсці да адзінага рашэння.

Цытую ў якасці прыкладу: «Нават калі пагадзіцца з высновамі судоў, што выдадзеная істцу 30 сакавіка 1993 г. даведка не вызваляла яго ад работы на ўвесь гэты дзень, то і тады звальненне Буто В.М. па п. 4 арт. 33 КЗаП РБ нельга прызнаць законным. У адпаведнасці з п. 4 арт. 44 КЗаП працоўны дагавор, які заключаны на няпэўны тэрмін, а таксама тэрміновы працоўны дагавор могуць быць скасаваныя наймальнікам у выпадку прагулу... без уважлівых прычын. Звальненне з работы на гэтай падставе дапускаецца толькі за віноўныя дзеянні. Даведка ад 30 сакавіка 1993 года была выдазена Буто В.М. медыцынскай установай і ў ёй было ўказана, што ён, праходзіў абследаванне 30.03.93 г. — «адзін дзень». Якіх-небудзь іншых запісаў... у ёй няма. Тая акалічнасць, што потым органамі аховы здароўя гэта даведка прызнана беспадстаўнай, не можа быць пастаўлена ў віну Буто В.М. і расцэнена як здзяйсненне ім... прагулу...» Гэта — з пратэсту А. Бажэлкі.

«Пратэст задавальненню не падлягае па наступных падставах. Згодна з п. 4 арт. 33 КЗаП, працоўны дагавор, які заключаны на няпэўны тэрмін, да заканчэння тэрміну яго дзеяння можа быць скасаваны наймальнікам у выпадку прагулу... без уважлівых прычын». Далей у пастанове пленума Вярхоўнага суда даказваецца, што Буто В.М. зрабіў менавіта прагул. Іншымі словамі, усё з дакладнасцю да наадварот.

Ну а калі б ад майго меркавання што-небудзь залежала, то я б сказаў, што доказы Генеральнай пракуратуры гучаць значна больш пераканаўча...

### ІНІЦЫЯТАР «БІТВЫ ГІГАНТАЎ» ПРАДАЕ ГАЗЕТЫ...

А што ж Віктар Мікалаевіч? Віктар Мікалаевіч па-ранейшаму бадзёры і энергічны. Неаднойчы ён спрабаваў уладкавацца па спецыяльнасці, але ў іншае дэпо. Чамусьці не бралі. Прасіў нават, каб дапусцілі на курсы па падрыхтоўцы вадзіцеляў тралейбусаў. Аб'явы аб наборы на курсы вісяць у кожным другім тралейбусе. Але Віктара Мікалаевіча чамусьці зноў не бралі...

Адным словам, былы вадзіцель усюды натыкаўся на добра арганізаваную і глыбока эшаланіраваную абарону. Як гаворыцца, «но пасаран!» Ну, што ж, летам мінулага года Буто атрымаў пасведчанне прадпрымальніка і пачаў прадаваць газеты, не губляючы цвёрдай надзеі на поўны і высокі трыумф справядлівасці. Праўда, і тут Віктар Мікалаевіч умудрыўся ўступіць у канфлікт з праваахоўнымі органамі. Справа ў тым, што газетамі ён гандлюе ля універсама «Першамайскі», што актыўна не падабаецца яго дырэктару. На яе погляд, Віктар Мікалаевіч перашкаджае пакупнікам. Як адзін, не вельмі буйны па камплекцыі чалавек можа перашкаджаць пакупнікам, мне не зусім зразумела, тым не менш, аднойчы ахоўнік універсама абяцаў Віктара Мікалаевіча пабіць.

А другім разам яго забрала міліцыя і склала пратакол. А Першамайскі суд у асобе суддзі Кобышава вынес яму «вусную заўвагу». Прама нейкі злы рок вісіць над Віктарам Мікалаевічам. Закон, як быццам, заўсёды на яго баку (нумар яго пасведчання прадпрымальніка 039568), а атрымліваецца, што як бы і не на яго. Як ён сам пісаў у адным са сваіх шматлікіх пасланняў у інстанцыі «... І пашчасціла ж мне нарадзіцца ў дзяржаве, дзе адсутнічае якое-небудзь правасуддзе». Тут бы я з ім не пагадзіўся. Правасуддзе ў нас, безумоўна, ёсць. Праўда, як заўважае Віктар Мікалаевіч, для яго — «якое-небудзь».

Так што, Віктар Мікалаевіч, магу пажадаць вам толькі цярпення і яшчэ раз цярпення. Шмат цярпення. Можа быць, калі-небудзь, як гаворыцца, пры ўдалым збегу абставінаў...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ ЗАВОДА

**РЭПАРТАЖ**

Вялізнае памяшканне — гэткае футбольнае поле пад дахам гуло, звінела ад мноства машын, станкоў і механізмаў, што працавалі ў зладжаным рытме. Зварачныя паўаўтаматы «сшывалі», а потым рэзалі тоўстыя металічныя лісты, рыхтуючы загатоўкі для стальных калон і бэлек. А ў суседнім адсеку з дапамогай магутных вальцаў сталёвыя лісты згібаліся ў вялізную трубу. Як растлумачыў памочнік дырэктара Маладзечанскага завода лёгкіх металаканструкцый Яўген Яронін, параўнаўча нядаўна на прадпрыемстве наладзілі вытворчасць ёмістасцяў з двайной сценкай і аб'ёмам ад 10 да 50 кубаметраў для захоўвання нафтапрадуктаў. Дарэчы, падобная тэхналогія тут выкарыстана ўпершыню ў СНД. А значыць і рынак збыту практычна неабмежаваны. Няцяжка здагадацца, што значыць двухсценныя чыгуначныя ёмістасці для перавозкі нафтапрадуктаў. Па-першае, пры пашкоджанні адной са сценак цыстэрны ёсць гарантыя захавання яе змесціва, што само па сабе каштуе нямала, а па-другое, гэта новаўвядзенне мае важнае значэнне і для экалогіі.

Не меншую плошчу на другім баку дарогі займае яшчэ адно вялізнае збудаванне. Па сутнасці, яго прадукцыя дала назву ўсяму заводу, бо менавіта ў гэтым памяшканні размешчаны вытворчыя плошчы цэха лёгкіх металічных канструкцый. І тут панаваў той адмысловы парадак, які характэрны для прадпрыемства з устойлівым рытмам работы. Зладжана працавалі станкі і механізмы, усё было падпарадкавана адной мэце: даць як мага больш прадукцыі.

А яшчэ ўвагу прыцягнуў вялізны пракатны стан, што выцягнуўся амаль праз увесь цэх. Вось на станіну падаецца даўжэзная металічная лента. Паступова вальцы абціскаюць яе з усіх бакоў. І праз некалькі праходаў — гэта ўжо труба. Зверху спецыяльны паўаўтамат накладвае роўнае шво. На наступным адрэзку пракатнага стана труба з дапамогай новага набору вальцаў ператвараецца ў пустацелыя, рознай канфігурацыі профілі, што ідуць потым на выраб металічных каркасаў.

А ўвогуле лёгкія маладзечанскія металаканструкцыі выкарыстоўваюцца для ўзвядзення самага рознага прызначэння будынкаў як прамысловага, гаспадарчага, так і культурна-бытавога прызначэння. Тут вырабляюцца будаўнічыя металаканструкцыі карпусоў шматпавярховых прамысловых і грамадзянскіх будынкаў, кабельных і трубаправодных эстакад, канструкцыі для ўстаноўкі тэхналагічнага абсталявання, панелі сценавыя трохслойныя элементы для афармлення сцен з панеляў (парапеты, злівы) і шэраг іншых дэталяў і вузлоў, якія знаходзяць шырокае прымяненне ў будаўнічай індустрыі.

У наступным годзе споўніцца трыццаць гадоў, як на ўскраіне Маладзечна быў уведзены ў эксплуатацыю завод металаканструкцый. Амаль праз дзесяць гадоў — у 1978 годзе побач вырас яшчэ адзін завод — лёгкіх металаканструкцый. Гэта былі зусім розныя па характару вытворчасці і прызначэнню прадпрыемствы. Ды і адносіліся яны да розных міністэрстваў некалі яшчэ саюзнага падпарадкавання. Час ішоў, мяняліся задачы і мэты будаўнікоў. На змену грувасткім будынкам, асновай якіх служылі магутныя стальныя калоны і бэлькі, з якіх потым мантаваліся каркасы будучых будынкаў, з'явіліся праекты больш лёгкіх і ажурных збудаванняў. Узнікла ідэя аб'яднаць абодва заводы ў адно прадпрыемства. Так у васьмідзесятых гадах з'явіўся Маладзечанскі завод лёгкіх металаканструкцый. Дарэчы, раўных яму не было не толькі ў Беларусі, але і ў былым Саюзе. Металаканструкцыі паступалі тады ў адрасы ўсёй неабсяжнай краіны, а таксама за мяжу. Але потым Саюз развалішся, парушыліся эканамічныя сувязі, упалі аб'ёмы будаўнічых работ, словам, для калектыву завода насталі не лепшыя часы. І што ў такіх няпростых умовах засталося рабіць?

— Выратавала тое, што не сядзелі склаўшы рукі, не чакалі, калі наступяць нейкія перамены да лепшага, — зазначае дырэктар завода Мікалай Чурсін. — У многім паспрыяла і тое, што ўвесь час імкнуліся ўкараняць перадавую тэхналогію. Паколькі ні тады, ні цяпер на ўсёй постсавецкай прасторы мы не мелі сур'ёзных канкурэнтаў, попыт на лёгкія металаканструкцыі быў даволі істотным. А таму калі і давялося крыху зменшыць аб'ёмы вытворчасці, усё ж заставаліся на плаву. Шукалі новыя рынкі збыту, у тым ліку і за мяжой. У выніку паступова зноў пачалі набіраць абароты.

Па словах кіраўнікоў прадпрыемства, сёння Маладзечанскі завод лёгкіх металаканструкцый перажывае нібыта другое нараджэнне. Многае дае прыцягненне замежнага капіталу. Сумесна з нямецкай фірмай стварылі мэблевы цэх, які нагадвае сучасную фабрыку. У сваю чаргу фінская фірма «Раўтарукі» прапанавала праект высокатэхналагічнай афарбоўкі стальнога ліста. Новае СП дасць прыбаўку яшчэ на 90 мільёнаў долараў у год.

Клапоцяцца тут і пра развіццё сацыяльнай сферы: будуецца жыллё, расце заработная плата. Для работнікаў арганізаваны бясплатныя абеды ў заводскай сталовай. Словам, усё робіцца для таго, каб захаваць вытворчы калектыў. І на гэтыя клопаты работнікі адказваюць ударнай працай. Летась калектыў прыбавіў у аб'ёме выпуску прадукцыі ў параўнанні з папярэднім годам недзе на 47 працэнтаў, за студзень-люты гэтага года прырост вытворчасці перавысіў аналагічны паказчык мінулага года больш як на 60 працэнтаў.

Падумалася: такія вось прадпрыемствы, як Маладзечанскі завод лёгкіх металаканструкцый, і ствараюць патрэбны імідж усёй нашай рэспубліцы. А гэта — новыя заказы, валюта, якая пойдзе на далейшае развіццё вытворчасці, сацыяльнай сферы.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

**ТАА «Юнібуд» ліквідуецца.
Прэтэнзіі прымаюцца
на працягу двух месяцаў
з дня публікацыі.**

**Тэл. (017) 249-80-17.**

# БЕРЛІНСКАЯ МАЗАІКА

**(Заканчэнне. Пачатак у № 54.)**

Модная сёння тэма — рускія ў Берліне. На пачатку стагоддзя, у 20-я гады, па ўспамінах старажылаў, вядомыя рускія паэты, пісьменнікі, мастакі, артысты аказвалі вялікі ўплыў на культурнае жыццё нямецкай сталіцы. У гэта цяжка паверыць, але ў той час тут жыло каля 500 тысяч рускамоўных, пераважна эмігрантаў. Вялікай папулярнасцю карысталіся рускія школы балета, тэатральныя майстэрні, мастацкія студыі, якія займалі цэлыя кварталы.

А сустрэчы з Марынай Цвятаевай, Андрэем Белым, Барысам Пастарнакам, іншымі праслаўленымі майстрамі ўспрымаліся як свята. Тады берлінцы атрымалі магутны інтэлектуальны зарад.

Сёння зноў у Берліне шмат гавораць пра рускамоўных, але ўжо ў зусім іншым аспекце. У асноўным пра рускую мафію і вялікія грошы маскоўскіх нуварышаў і іх крымінальны ўплыў на норавы жыхароў. Пад багатых рускіх падладжваецца мясцовы гандаль. Напрыклад, буйнейшы ў Германіі, а магчыма, і ў Еўропе універмаг «КДВ» на цэнтральнай вуліцы Заходняга Берліна (адзін з яго паверхаў займае гастраном з лепшымі прадуктамі харчавання з усяго свету) у свой штат увёў прадаўцоў з добрым веданнем рускай мовы. Іх функцыя — абслугоўваць заможных расіянак, умець зацікавіць выгадных пакупніц у набыцці дарагіх рэчаў.

Зусім іншая і вельмі нешматлікая група наведвальнікаў Берліна — ветэраны Вялікай Айчыннай вайны з былых рэспублік Савецкага Саюза, якія ў гады свайго юнацтва некалі закончылі тут баявы шлях. Пра іх, як мне здалося, берлінцы не вельмі любяць успамінаць. Але пра аднаго чалавека, які адыграў не апошнюю ролю ў вызначэнні пасляваеннага лёсу Германіі, мне нагадалі ў час наведвання непадалёк ад Берліна палаца Цэцыліенхоф, дзе ў 1945 годзе праходзіла славутая Патсдамская канферэнцыя з удзелам Сталіна, Трумэна, Чэрчыля. Там, у прыватнасці, была канчаткова вызначана сістэма чатырохбаковай акупацыі краіны, новая польска-германская мяжа, быў перададзены Кёнігсберг (цяпер Калінінград) Савецкаму Саюзу.

Сярод тых, хто рыхтаваў гэтыя важныя для Еўропы рашэнні, быў наш зямляк, тады дыпламат у рангу надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла СССР у ЗША, Андрэй Грамыка. Як мне расказалі берлінцы, за год ці два да сваёй смерці Андрэй Андрэевіч з прыватным візітам зноў наведаў Патсдам, абышоў Цэцыліенхоф і доўга сядзеў у цішыні залы, дзе праходзілі перагаворы пераможцаў Гітлера.

Аб чым думаў гэты, бадай, у свой час адзін з самых інфармаваных і ўплывовых палітычных дзеячаў планеты, засталося тайнай. Немцам, якія яго суправаджалі, ён нічога не сказаў. Пра наведванне Патсдама ён не ўпамянуў і ў сваіх мемуарах, ва ўсякім разе, надрукаваных. За іх публікацыяй немцы ўважліва сачылі. Яны мяркуюць, што Грамыка тады разважаў аб выніках вырашэння так званага германскага пытання, які доўгі час быў у цэнтры вострай палітычнай барацьбы паміж СССР і Захадам.

Патсдам, які літаральна зліваецца з Берлінам, — турыстычная Мекка Германіі. Але экскурсіі, асабліва аўтобусныя на вялікую адлегласць, каштуюць тут нямала. Тым жа, хто апынуўся ў Берліне са сціплымі сродкамі, магу параіць самую танную экскурсію па маршруту гарадскога пасажырскага аўтобуса № 100, які звязвае цэнтральныя часткі Усходняга (Аляксандрплац) і Заходняга Берліна (Курфюрстдамштрасэ). Дастаткова купіць білет за 3 маркі 60 пфенігаў, выбраць зручнае месца ля акна на другім паверсе аўтобуса — і прыкладна паўгадзіны можна любавацца краявідамі нямецкай сталіцы. У тым ліку, так бы мовіць, і рэжымнымі аб'ектамі. Напрыклад, насупраць аднаго з прыпынкаў аўтобуса знаходзіцца рэзідэнцыя — палац прэзідэнта ФРГ Романа Херцага.

Берлінцы пры больш цесным знаёмстве аказваюцца людзьмі з гумарам. Іх жартаўлівыя і трапныя назвы асобных архітэктурных помнікаў, збудаванняў і комплексаў трывала ўвайшлі ў штодзённую лексіку жыхароў сталіцы. Мясцовая славутасць — фантан на Аляксандр-плац з велізарнай статуяй марскога бога Нептуна і чатырма жаночымі постацямі па баках. Дык вось іх назвалі адзінай чацвёркай жанчын (яны ўвасабляюць чатыры галоўныя ракі Германіі), якія трымаюць край. «Трымаць край» у немцаў азначае маўчаць. Гэтым бясцэнным дарам для лепшай палавіны чалавецтва берлінкі не валодаюць і звычайна ў размовах, спрэчках з мужчынамі не лезуць, як у нас кажуць, па слова ў кішэню.

Французы падарылі Берліну адмысловую скульптуру: дзве доўгія, скіраваныя ў неба ломаныя лініі, якія ніяк не могуць злучыцца. Па задумцы аўтараў, яны павінны сімвалізаваць трагедыю раз'яднанага на Усходнюю і Заходнюю часткі Берліна. Лёгкадумныя гараджане адразу ахрысцілі скульптурную кампазіцыю танцуючымі спагецці.

Гэта светлы, добразычлівы гумар простых людзей. Праявай чорнага зубаскальства можна лічыць жарт у адрас будынка рэйхстага кайзера Вільгельма (калі не памыляюся). Як сапраўдны манарх, ён цярпець не мог дэпутатаў і іх месца працы. Усё раздражняла яго ў гэтым будынку, і аднойчы ён у прыпадку злосці вельмі крыўдна назваў парламент катафалкам.

Адну з цэнтральных плошчаў берлінцы і па сённяшні дзень называюць паміж сабой бульбяным палеткам. У старадаўнія часы тут вырошчвалі бульбу, якую тады яшчэ не елі, а толькі яе кветкамі высакародныя дамы ўпрыгожвалі свае галаўныя ўборы.

Новую рэзідэнцыю федэральнага канцлера назвалі яйкам за яе эліпсападобную форму.

Што моцна не падабалася і што пакуль у нашых гарадах, на шчасце, не атрымала развіцця, дык гэта насценны «жывапіс» юных вандалаў. Прыкра было глядзець на сапсаваныя дзікімі малюнкамі і надпісамі нядаўна адрэстаўраваныя, прыгожа пафарбаваныя фасады дамоў. Гэты «мастацкі» вірус пакуль неператоможаны нават нямецкай паліцыяй. Адно спадзяванне на тое, што мода пэцкаць будынкі пройдзе сярод падлеткаў, сама па сабе.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## Чатыры юныя шчаслíўчыкі паедуць у Францыю

**Даволі хутка, з 10 чэрвеня па 12 ліпеня ў 10 гарадах Францыі пройдуць футбольныя баталіі лепшых каманд планеты.**

Як паведаміла пасольства Францыі ў Мінску, Міністэрства замежных спраў гэтай краіны наладзіла сусветны конкурс для студэнтаў і школьнікаў. Яго назва: «Едзем у Францыю 98». Згодна з яго ўмовамі, чатыры беларускія пераможцы конкурсу разам з 600 маладымі людзьмі з іншых краін атрымаюць запрашэнні ў Францыю на чэмпіянат.

Яны стануць сведкамі чвэрцьфінальных, паўфінальных гульняў і матча за бронзавыя медалі, а таксама будуць удзельнічаць у многіх культурных мерапрыемствах, іх прымуць на высокім узроўні. Безумоўна, незабыўнай падзеяй стане для юных пераможцаў конкурсу ўдзел у Нацыянальным свяце 14 ліпеня на Елісейскіх палях.

Конкурс у Беларусі праводзіцца разам з Міністэрствам адукацыі. 42 навучальныя ўстановы рэспублікі ўжо вылучылі сваіх прадстаўнікоў на яго фінальную частку. Яна пройдзе 20 сакавіка ў Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна. Там пасол Францыі ўручыць чатыры запрашэнні пераможцам. Не выключана, што сярод іх будуць і дзяўчаты.

## Культурная адліга ў Беластоку

**Напружанне ўзнікла ў адносінах паміж дзвюма краінамі ў пачатку года пасля таго, як Польшча ўвяла ў дзеянне новыя правілы ўезду для беларускіх грамадзян. Моцна незадаволенымі аказаліся таксама і жыхары польскіх прыгранічных раёнаў. У прыватнасці, шэраг мітынгаў і акцый пратэсту прайшоў у Беластоцкім ваяводстве.**

Але ў канцы мінулага месяца ў Беластоку адбылася падзея, якую можна лічыць культурным укладам, скажам так, у разрадку гэтай рэгіянальнай міжнароднай напружанасці. Па інфармацыі з Міністэрства замежных спраў Беларусі, у Беластоку з поспехам прайшоў вялікі гала канцэрт. Ён стаў магутным завяршальным акордам усяпольскага фестывалю «Беларуская песня-98».

У ролі аўтара ідэі і арганізатара фестывалю выступіла Беларускае грамадскае культурнае таварыства ў Польшчы.

Цікавая дэталь: ужо чацвёрты раз ганаровы патранаж над гала-канцэртам узяў на сябе былы прэм'ер-міністр, а сёння дэпутат польскага сейма Уладзімеж Цімашэвіч.

Гэта культурная падзея выклікала вялікую цікавасць у Беластоку. Перад гледачамі выступілі 28 самадзейных вакальных груп, хораў, салістаў, якія былі апрануты ў нацыянальнае беларускае адзенне.

Па звестках з Беластока, спадабалася гледачам і майстэрства гасцей з Беларусі — артыстаў Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Дрынеўскага.

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА** Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Кошт: падпіскі ____ руб.; пераадрасоўкі ____ руб. Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)



# Акционерный коммерческий банк «БЕЛПРОМСТРОЙБАНК»

**КОНСОЛИДИРОВАННЫЙ БАЛАНС БЕЛПРОМСТРОЙБАНКА НА 1 ЯНВАРЯ 1998 Г.**

*млн. руб.*

**АКТИВ**

| Наименование статей | Сумма |
|---|---|
| 1. Денежные средства и драгоценные металлы | 197267,7 |
| 2. Средства на корреспондентских счетах в банках | 360997,1 |
| 3. Обязательные резервы | 1016147,3 |
| 4. Кредиты и депозиты банкам | 1592503,0 |
| из них: | |
| — просроченная и сомнительная задолженность | — |
| 5. Кредиты клиентам | 6230653,2 |
| из них: | |
| — просроченная и сомнительная задолженность | 67526,5 |
| 6. Ценные бумаги | 866905,2 |
| 7. Долгосрочные финансовые вложения, инвестиции | 33189,8 |
| 8. Основные средства и нематериальные активы (за минусом износа) | 1060083,0 |
| 9. Прочие активы | 292605,4 |
| **Баланс** | **11650351,7** |

**ПАССИВ**

| Наименование статей | Сумма |
|---|---|
| 1. Средства банков на корреспондентских счетах | 426081,2 |
| 2. Кредиты и депозиты банков (включая НБ РБ) | 1613572,8 |
| 3. Средства клиентов | 7669287,9 |
| 4. Долговые обязательства банков | 103485,2 |
| 5. Прочие пассивы | 526191,6 |
| 6. Капитал и резервы: | 1311733,0 |
| — уставный капитал | 95911,2 |
| — фонды банка | 642398,3 |
| — фонд переоценки | 499877,3 |
| — нераспределенная прибыль | — |
| — прочие | 73546,2 |
| **Баланс** | **11650351,7** |

***Примечание.*** *Статьи по активу баланса указаны за минусом созданных по ним резервов. Резерв на возможные потери по ссудам 621542,1 млн. руб.*

**ОТЧЕТ о прибылях и убытках Белпромстройбанка на 1 января 1998 года**

*млн. руб.*

**ДОХОДЫ БАНКА**

| Наименование статей | Сумма |
|---|---|
| 1. Процентные доходы | 2183579,5 |
| 2. Комиссионные доходы | 370569,1 |
| 3. Прочие банковские доходы | 507140,2 |
| 4. Уменьшение резервов, поступления по ранее списанным долгам | 159519,4 |
| 5. Непредвиденные доходы | 27,8 |
| 6. Прочие доходы | 27158,6 |
| в том числе прочие операционные | 27158,6 |
| **Всего доходов** | **3247994,6** |

**РАСХОДЫ БАНКА**

| Наименование статей | Сумма |
|---|---|
| 1. Процентные расходы | 1183595,3 |
| 2. Комиссионные расходы | 37877,7 |
| 3. Прочие банковские расходы (потери) | 122232,2 |
| 4. Отчисления в резервы | 340465,9 |
| 5. Непредвиденные потери (расходы) | 1525,5 |
| 6. Прочие расходы | 1299924,0 |
| в том числе прочие операционные | 1155173,3 |
| **Всего расходов** | **2985620,6** |

**Прибыль** **262374,0**

**Аудиторское заключение, сделанное АО «Аудитэл», подтверждает достоверность сведений, отраженных в балансе Белпромстройбанка и отчете о прибылях и убытках на 1 января 1998 года.**

220678, Республика БЕЛАРУСЬ, г. МИНСК, бульвар ЛУНАЧАРСКОГО, 6.

